Бібліятэка часопіса *Годы*

АЛЕСЬ ЧОБАТ

# Тутэйшая Сага

Смаленск, Гродна
2000

УДК 882. 6–1
ББК 84 (4 Беи) 6
Ч 75

**Чобат Алесь. Тутэйшая Сага.**
Смаленск: Бібліятэка часопіса «Годы», Смаленск – Гродна, 2000. Выпуск семнаццаты. 134 с.

Рэдактар – **Мікалай Ількевіч**
Тэхнічная падрыхтоўка выдання – **Улад Свабодзін**

**Спонсар выдання:**
**Цэнтр Грамадзянскай Адукацыі**
**Польшча — Беларусь**



Алесь ЧОБАТ народжаны ў мястэчку Скідаль у 1959 годзе. Скончыў Тэхналагічны інстытут у Мінску. Быў фабрычным канструктарам, журналістам розных газетаў, экскурсаводам музея Максіма Багдановіча.

Аўтар чатырох кнігаў паэзіі, эсэ «Зямля Святога Лукі» і «Легенда пра чатырох мушкецёраў», шматлікіх хронік, біяграфій, артыкулаў і апавяданняў па праблемах гісторыі і сучаснасці Беларусі.

Належыць да нацыянальнага Саюза Пісьменнікаў і міжнароднага ПЕН-клуба.

Жыве ў Гродна.

# ІНСТАЛЯЦЫЯ

**Лёг туман, як сон — на хаты, прысады.
Не відаць — дзе Скідаль тут, дзе Паставы.
У кустах патруль міліцэйскай засады,
Але нават дарога сягоння пустая.**

**У такім запусценні свабодна думам.
Што яшчэ і як зрабіць для народа.
Ехаць быле дзе — ці стаяць пад дулам?
Вось і ўся палітыка... І свабода.**

**На традыцыі грунтуецца вера.
Гаспадарка і побыт — на самагонцы.
Як анафема, за вёскаю ферма...
Потым горка — і могілкі на той горцы.**

**Пераходны час. Ні зіма, ні восень.
Тэлесерыял «Тутэйшая Сага».
Едзе гною воз. Спіць мужык на возе.
Зверху вілы тырчаць — без ніякага сцяга.**



# ДЭЛЬТАПЛАН

Рушыў свет у дарогу. Дайшла вёска да горада.
А чаго хадзіла — сама не ведае.
Той, хто поўз, паляцець захацеў. Нядарага.
Дэльтаплан падняў. Авіяцыю бедных.

Лішні дождж. Не той вецер. Дрот нацягнулі.
Падвяла энергетыка. І ўся інфраструктура.
Падманулі беднага. Перавярнулі.
І навошта вёсцы такая культура...

Так ляціць над Парыжам наша фанера.
Свет і горад глядзяць. У сполаху нават.
Дэльтаплан падобны да браканьера.
Бо якая доля, такая халява.

Бусел сеў на луг. Пацягнуў з баклагі.
Доўгай дзюбай, як мацюкнуўся, заклацаў.
Бо на Небе не поўзаюць — як бадзягі.
А жывуць на Небе — над вёскай, над хатай...



# ПА РЭВІЗІІ

**Раніца. Падмятаюць. Лужы. Базар. Панядзелак.**
**Тару збіраюць у смярдзючых кустах санітары,**
**На двары — новы дзень і старая надзея.**
**Дожджык сыплецца і аблятаюць каштаны.**

**Пераходзіць восень па горла ў лісце наш горад.**
**Топіцца суд у разбоях, мітынгах і падзелах.**
**Жонка мая шчаслівa дайшла са мной да развода.**
**Цяпер сядзіць. Без сябровак. Чакае на панядзелак.**

**Нашы ільготныя чэргі чакаюць новай дамовы.**
**Дачны пасёлак пад горкай п'яны кубіст пасеяў.**
**Час рассыпаецца. Восень. Хто можа — ляціць за мора.**
**Іншыя тару збіраюць. Лужы. Базар. Панядзелак.**



## ПАШЫЛІСЯ Ў ДУРНІ

**Час выцінаю з газетаў. Як дзеці, раблю аплікацыі.
Лістапад пакрылі ільды без апалубкі і арматуры.
Потым будзе адліга на пагранічнай станцыі.
А потым — рамонт навечна. На загад Упраўлення культуры.**

**Потым зваліцца нешта. Як з Ліды Анацка. Знянацку.
Эпоха нейкая хворая, як былы прэзідэнт Расіі.
Цацка ў дзяцей прапала?! Дайце другую цацку...
Не хочуць — хай не гуляюць. Абы не галасілі.**

**Кажа вароне варона, што смецце зноў па талонам.
І кожную замацуе за бакам сваім іх бацька.
Гэтак перазімуем. Ціха і нескарона.
А потым зваліцца нешта. Як з Ліды Анацка. Знянацку.**



# ЯК З ЕВАНГЕЛЛЯ

**як з Евангелля**
**дождж цячэ з Неба**
**на гной на стрэхі на пярэсты статак**
**«Мужчина, остановка называется Ферма!**
**Никакой деревни Жукевичи нет!»**
**чатырох фермераў**
**пацягваюць з пляшкі пад крамай**

**гэтак было**
**жылі жралі жаніліся**
**елі пілі рабілі дзяцей**
**пакуль не ўвайшоў Ной у каўчэг**
**бо лінуў патоп і знішчыў усіх**
**а потым зноў**
**жылі жралі жаніліся**
**елі пілі рабілі дзяцей**
**пакуль жонка Лота соллю не аслупянела**
**гэтак і будзе ў той дзень**
**калі Сын Чалавечы прыйдзе**

**летнія ўнукі з Гродна**
**ведаюць пра чатырох мушкецёраў**
**але не чатырох вершнікаў Апакаліпсіса**
**каўчэг Ноя ніяк не выйдзе з рамонта**
**падвяла «Сельхозтехника»**
**гэтак і будзем**
**жыць жраць жаніцца**
**есці піць і рабіць дзяцей**
**а потым прыйдзе патоп**



## СКІДЗЕЛЬ

**Не хачу вяртацца нідзе. Не бывае долі падвойнай.
А палова жыцця прайшла — як палова Краю прапала.
Паміж «тут бэньдзе Польска, бо было так пшыд войном»
і «я радзілася здзеся, хаця папа прыехал с Урала».**

**Гэта Скідзель — як скудзель. Мясціна мёртвых,
якія жывуць, і жывых, якія даўно паўміралі.
Сюды нават марксізм не прыйдзе. Не калгасная ж мода.
І няма дзе блукаць ад эстэтыкі да маралі.**

**Па аўторках, па чацьвяргах брук таптаць у мястэчку
сярод лужынаў і паламаных акацый,
на жывых і на мёртвых, як на сябе ў мястэчку,
з нараджэння да смерці штодзень натыкацца...**



## СМЕРЦЬ

Пасівела позняя восень.
Пуста — як па смерці сястры.
Тут хапіла ўсяго даволі.
Свет стары. І ты сам стары.

Сны. Завулкі. Лужыны. Дрэвы.
Змерзла ноч. І застыгла ціш.
І да ранку — трэба, не трэба —
час варушыцца. Ліпні, як мыш.

Хіба рана доктар Адамін
на запой мой махнуў рукой.
Не запой. Спакой — як у яме.
Ні жыцця, ні канца. Спакой.

Смерць такая і не такая.
Сніцца нам і не сніцца нам.
Ці пры ёй цэлы свет знікае.
Ці знікаеш пры ёй ты сам.



## УСПАМІН

**Колькі гадоў мінула**
**людзей падзеяў**
**даканана справядлівасці**
**альбо чысткі этнічнай**
**гітлераўцы прайшліся па жыдах**
**бальшавікі па паляках**
**вёска занялася авансам**

**бацька і маці авансавалі**
**і папракаюць мяне... што я не трактарыст**
**і гной не цягаю на бульбу**
**а цэны шалеюць**

**няма ў Гродне Налкоўскай**
**няма ў Лідзе Путраманта**
**няма ў Вільні Чэслава Мілаша**
**няма Станіслава і Юзафа Мацкевічаў**
**няма з кім пагаварыць**
**бо вёска авансавала**

**жыве Беларусь**
**бо вёска авансавала**
**цяпер прысна і на вякі вякоў**
**аман**



# КРУЧА

**Круча над пушчай. На Неба ўзыходзяць доўга.
Спачатку хрысцім ад Рыма князя Міндоўга.
Потым — за лепшыя месцы рэжамся як адзін.
Потым — на лепшы сук разбіткаў шле Гедымін.**

**А Полацк выгнаў Скіргайлу! Ягайлу — Вітаўт Шалёны.
Ягайла пабег аж на Кракаў — і нарабіў Ягелонаў.
Адна і другая Унія. Сорак войнаў на ўсе бакі.
Вялікае Княства Руінаў. Радзівілы і жабракі.**

**Нарэшце адваявалі. Адстралялі. Аджабравалі.
Нарэшце костку адгрызлі, скінутую са стала.
А час — постіндустрыяльны. Гавары па-англійску, начальнік!
Наша дарога крутая на Неба не завяла.**



# 1413 ГОД
# ГАРОДЛЯ НАД БУГАМ

**Немец пабіты. Святкуем з Еўропай яднанне.
Каталікі атрымалі гербы́ — гэй, славяне!
І праваслаўным няма чаго плакаць ізноў —
як сабе мелі, няхай пакуль маюць князёў.**

**Князь Аляксандр з каралём Ўладыславам,ваўкі два старыя,
новую рэзь наклікаюць — ад Бельска па Лепель.
Роўнасці роўная роўнасць бывае... пятлёю на шыі.
Край разарвецца вайной! А хацелі ж, як лепей...**

**Лепей не трэба хацець. Не направіць сам Бог чалавека,
як напраўляюць тупую сякерыну кругам.
Свята. Стаяць пад царквою — калека, калека, калека...
Немец пабіты. І свята ў Гародле над Бугам.**



# УНІЯ

**Пётр Скарга расколаты крыж захацеў падняць.
Але нават Ісус толькі цэлы насіў.
І там, дзе ўчора адзін збіраўся яднаць,
сягоння сотня бяжыць — і рвуць з усіх сіл.**

**Леў Сапега адвечны хай захацеў спыніць.
Але гэты люд толькі з хаем знацца прывык.
І там, дзе ўчора пан адзін меў суды чыніць,
над усімі расправу сягоння чыніць кожны мужык.**

**Вось і выкупалі Трэйцы Крыж у крыві.
Толькі кроў Кунцэвіча — не Ісуса кроў.
То на Небе адно, а інакш на зямлі,
на глухой зямлі ў час дажджоў, вятроў...**



## ПАЎНОЧНАЯ ВАЙНА

**Эх, і ўдарылі Сапегі на Агінскіх!**
**Ох, і ўмазалі Агінскія Сапегам!**
**І чакае пан Агінскі палкоў рускіх,**
**І чакае пан Сапега палкоў шведскіх...**

**Неба стала з аблачынку — во як б'емся за айчынку!**
**За дзяўчынку так не б'юцца. Во як б'емся — аж смяемся!**
**— Стой, панове! Гэта з нас ужо смяюцца...**
**— Ах ты, здраднік! На асіну таго немца!**

**Папялішчы на Айчыне. Здраднік сохне на асіне.**
**Шведы скінулі штаны. Замірыліся паны.**
**Пётр гуляе ў Пецярбурзе. Недзе нешта неяк будзе.**
**Едзе вош на мужыку. Шляхта разам — у шынку.**



## СТАНІСЛАЎ АЎГУСТ ПАНЯТОЎСКІ

**Не трэба нам чужой хлусні з наезным гнюсам!**
**І не па іх сягоння пусцім мы слязу...**
**Вось — Панятоўскі! Быў прыродным беларусам —**
**бо нават прозвішча сваё пісаў праз «у»!**

**І на вякі вякоў яму за гэта слава!**
**І памяць вечная за шчырасць з дабрынёй!**
**Бо ён даваў усім налева і направа —**
**паводле звычаю між нашай вяскаўнёй...**

**А то ж спакою не было даўней, мой Божа —**
**шумеў чарот і дрэвы гнуліся, пся мацъ!**
**Ды беларус адзін сапраўдны толькі можа**
**Рэч Паспалітую на тры канцы раздаць...**



# АДАМ МІЦКЕВІЧ

**Адам Міцкевіч што ў Наваградку, што ў Коўна
жыў небагата, але дыхаў поўна.
Няшмат было на свеце светлых дзён —
да Польшчы так і не даехаў ён.**

**Паэт спакойна паміpae рэдка —
ў Канстанцінопалі расійская разведка
атруціла Міцкевіча, каб ён
не набіраў там новы легіён.**

**Сто пяцьдзесят гадоў прайшло — а я ўсё плачу.
Сто пяцьдзесят гадоў прайшло — а я ўсё бачу,
як пад наваградзкі святы касцельны дах
нясе Тадэвуш Зосю на руках...**



# 1863 ГОД
# РАЗВІТАННЕ З РАДЗІМАЙ...

**Тут шлях адзін у выдуманы рай**
**дае сваім жаўнерам гэты Край —**
**на снезе запяклася кроў, як хустка,**

**і мроіцца ў прабітай галаве**
**ўсе маскі мёртвыя і тыя, хто жыве,**
**а холад, слёзы, цемра, час і пустка,**

**як павукі, снуюць паволі ніць,**
**бяздушшам, страхам, здрадаю смярдзіць,**
**і ўсё, чым жыў, дарэмна прападае,**

**І толькі ў Небе ёсць дачка і ты,**
**спакойны хутар, бераг залаты,**
**Айчына вечная, свабода маладая...**



## МІХАЛ КАЯЛОВІЧ

**Ні мовы няма, ні народа.
Ніхто нічога не хоча.
А шляхта крычыць: свабода! —
і Польшчай аслеплены вочы...**

**Адзін. У Санкт-Пецярбурзе.
Прафесар — якіх дзесяткі.
На пальцах палічыш — хто людзі.
А так — як учора са статку.**

**Ні грошай няма, ні парады.
Жывеш — а душа ў магіле.
Што ж — трэба, каб імператар
наеўся... Заходняй Расіяй.**

**Хай будзе хоць «триединство».
Гэта больш, чым нічога.
Потым — з Вільні і Мінска
пачнецца свая дарога.**

**А ён, хто паклаў пачатак,
дастане тутэйшай пашаны:
у кнігах «удзячных» нашчадкаў
трапіць у цемрашалы...**



# 1866 ГОД
# ВЫБРАНЫЯ СЦЭНЫ ГУБЕРНСКАГА МЕСЦА ГАРОДНІ

**Сумны, пануры дзень пад Фарным касцёлам.
Пяхотныя афіцэры, жыды, урадоўцы.
Поп Мікалай трасе пальцам на пана Малахоўскага:
ска-азана ў Пісанні! павязуць усіх палячышак
на Сібір пры цары Іосіфе,
начыста вытрасуць каталіцкае семя...**

**А пад жыдоўскаю крамай пані Малахоўская
сон апавядае пані Дэмбіцкай:
конец свята юж бэньдзе!
прыйдзе немец плюгавы, на іме Гітцэль,
але ўратуе Пан Бог людзей пажондных,
адных жыдоў вымяце жах
з мейсца сэймовэго...**

**А Леон Ройзман бядуе ў краме;
сын ужо не яўрэй — змарнаваў грошы на пашпарт;
цяпер Аляксандр Львовіч Раманаў,
манархіста расейскі, курва яго маць...
А чуў, Шмуцусь, што кажа рабін?!
У прышлым стагоддзі на яўрэйскіх могілках
ляжа роўнае поле, званае стадыёнам,
і голыя прывіды бычы пузыр будуць біць нагамі —
разам з Леона тлёнам...**

**Тымчасам на далоні паручніка Іванова
цыганка долю чытае:
сто гадоў царква прастаіць, дзе паручнік браў шлюб
з Nadine, маладой і прыгожай,
а якую царкву мужыкі і паны-недабіткі
Фарай Вітаўта клічуць упарта,**

**узнясецца на Неба… і пылам каменным асядзе,
а на месцы тым новых святых
на сцяне-мураванцы налепяць,
а нядоўга й яны правісяць…
Сам збялелы, як смерць, цягне шаблю паручнік.**

**Мужыкі ж па дарозе на Скідаль
плётку бабскую цягнуць — як малітву да Бога:
кажуць, дзесьці ў Амерыцы
шмат зямлі і паноў не бывае,
чынш не трэба плаціць…
Пасміхаецца сумна пан Малахоўскі:
сам Касцюшка прынёс ёй свабоду, Амерыцы вашай,
хам-мскае быдла,
а вярнуўся хоць генералам, а шчэ горшай галотай.
— Не кахаеце Польскі…**

**Сумна, страшна, панура. Канца не відаць…**

**...неяк, проста з гулянкі, стане дрэнна пану Мікалаю —
пражыве толькі тыдзень.
Сын загіне пад Вяткай —
застрэліцца пан Малахоўскі,
і пярсцёнак прадаўшы, пойдзе ўдава да прыслугі.
Леон Ройзман памрэ — як яўрэй!
Сын — прап'е за год краму...
Службу скончыць паручнік —
мерзлым мясам на Шыпцы крывавай.**

**Сумна, страшна, панура. Канца не відаць...**



# МАЁЎКА ГІМНАЗІСТАЎ НА БЕРАЗЕ НЁМАНА

**Які ўжо раз дагэтуль і цяпер!
І праўду ведаем, і рацыя за намі...
Які ўжо раз ні зброі, ні сяброў!**

**Спіць розум — і варочаецца звер.
Сон белы з акрываўленымі снамі
зліваецца — і нараджае кроў.**

**Які ўжо раз ідзе крывавы Час!
Ні вершніка з мячом, ні Маці Божай
на даўняй палатніне баявой.**

**Свае ж халопы спусцяць скуру з нас.
А правы бераг з вечнаю Каложай
пакоціцца — і ў Нёман галавой...**



# 1894 ГОД
# КАСТРЫЧНІК, ГРОДНА...

**...тут замерзла, як Нёман, глухая ад страху кроў.
Адзін гамоніць базар. Пахне сенам, летам і лесам.
Тут яшчэ дажываюць бясконцыя сто гадоў —
і мястэчка губернскае спіць, як за Венскім Кангрэсам.
Тут адменена рабства — і галоднымі ходзяць рабы.
Тут каталічкі-паненкі за рускіх ідуць афіцэраў.
Тут прыяцель кожны любы — і вораг кожны любы.
Тут пярэдні край барацьбы. За Цара, Айчыну і Веру...
Цень бясконцай імперыі ценю Фары даўжэй.
Памер імператар адзін — у Маскве каранююць другога.
Піск царкоўных мышэй. Сера жандармскіх вушэй.
Суботні шабас. Поўна людзей. Сінагога
ледзь дыхае у цесных завулках... Дожджык перастае.
Прыйшоў сталічны цягнік. Ад вакзала ляцяць пралёткі.
Шваль свая і варшаўская барахло прадае.
І гуляюць фабрычныя дзеўкі і... з гімназіі цноткі.
Гніль імперыі ліжа з-над Нёмна туман.
Трэскі. Брудныя брукі. Смурод гарбарняў.
Ходнікі з дошак. Крамы. Скрыпкі рвуць рэстаран.
Шпанюкі з нахабнымі мордамі круцяцца ля кавярняў.
Цень бясконцай імперыі даўжэй за час і прастор,
Людзі ідуць на службу. Потым ідуць абедаць.
Сонны спакой. Сонны век. Сонныя дом і двор.
Як добра быць, як усе! Як добра нічога не ведаць!
Як добра жыць і не бачыць, што свету прыходзіць канец!
Падполле. Лісткі і бомбы. Трох імператараў свара.
Мільёны ліпнуць да пальцаў. З Нёмна на Асавец
цягаюць камень на крэпасць. Страх вайны і пажара
ноччу і белым днём круціцца ў душах, як звер.
Цень бясконцай імперыі цягнецца з комінаў дымам.**

**Так — як было і будзе. Некалі і цяпер.
Служачы банка гуляе з жонкай і сынам Максімам.
Побыт цячэ дзень за днём у сталіцы вечнай глушы…
…і раптам зорка паслання перакрэсліла неба!
Глядзіце — ужо нарадзіўся хлопчык чыстай душы,
пасланы гэтаму Краю, якому нічога не трэба!
Ні веры, ні адратунку, ні хоць бы звацца людзьмі,
ні стаць хоць нейкім народам між Фараю і Каложай,
і сораму ані кроплі... і хлопчык згарыць грудзьмі,
пасланы гэтай зямлі Паэтам Міласцю Божай.**



# МАРЫЯ БАГДАНОВІЧ

**Маці Марыя на гродзенскіх могілках спіць.
Камень паставіў па ёй Панцялееў Валодзя.
Надпіс і крыж. І ніякае медзі — і годзе.
Маці душа і без медзі на Небе звініць.**

**Камень стаіць каля сцежкі да белай царквы.
Злева Ісус, а направа спіць маці Марыя.
Праз два імёны Гасподзь нас ратуе і крые,
каб не загнала нас смерць у канавы й равы.**

**Трэйцім у Тройцы Святой — сын Марыі Максім.
Ён пахаваны далёка. На неба ўзняты.
На пілігрымку выводзіць дарога да Ялты.
Праўду казалі — праходзіць Паэт Крым і Рым.**



# АДАМ БАГДАНОВІЧ

**Беларус Адам Багдановіч… беларусам не быў свядомым.
Бо паехаў жыць у Расію і там рускім зрабіўся шчырым.
Але — тры тысячы кніжак бухгалтар просты меў дома.
Сын прыгоннага кухара. Бацька вялікага Сына.**

**А сына яго Максіма Гасподзь да сябе паклікаў
свечкай згарэць у цемры і красу адагрэць ад смерці,
бо Адам ужо з хамаў вылез — і Максім не на грошы маліўся,
і сэрца білася вольна, і розум яго быў светлы.**

**З беднай сялянскай хаты ў вечным прыгоне грошай
можна выбіцца ў людзі, але душа будзе рабскай.
А толькі ў вольныя душы дух уваходзіць Божы.
А мы цэлы Край зраўнялі да беднай хаты сялянскай...**



# МАТЫЛЁК

**Як сіні матылёк над белым снегам
цвітучай вішні, так навокал нас
ляціць і кружыць, і ліхім набегам
шалёна вые і ўсё паліць час.**

**Нядоўга чалавеку жыць на свеце,
нядоўга ў небе матыльку дрыжаць —
калі пасеяў нас аднойчы вецер,
то прыйдзе бура нас аднойчы жаць.**

**Што ж, матыльку ляцець адвечным следам,
і ён ляціць — за бурай, за зімой,
за белым снегам, Ноевым каўчэгам,
за млгістай абяцанаю зямлёй...**



# У ЯРАСЛАЎЛІ

**Як няма выгоды сталічнай —**
**скарыстаю з пагоды слічнай!**
**Пакуль варань абед**
**і пузаты пыхціць самавар,**
**прышпілю на піджак**
**ружу белую графкай англійскай**
**і на шпацыр сонечным днём**
**пайду на бульвар!**
**Яраслаўль — горад маленькі.**
**Трохсоттысячны толькі горад.**
**І ўсе з лепшых дамоў дзяўчаты**
**здаўна ведаюць, што я хворы.**
**Ну, пайду да рэдакцыі «Голоса» —**
**раптам там капейку налічаць?!**
**І сустрэну Дзяніса Дзябольскага**
**з яго малой Веранічкай...**
**...так і будзе са мной.**
**Так і памяць плугам падыме**
**і адваліць назад**
**перажытае ўсё на Крыме,**
**дзе памру ў адзіноце,**
**якую сабе наклікаў,**
**і апошні ў вачах**
**стане сквер з малой Веранікай...**



# ПРЫЕЗД НА РАДЗІМУ

**Так моцна пакахаў яе здалёку,
так часта ў снах прыходзіла яна,
гаіла боль, лячыла адзіноту
і клікала насустрач, як вясна.**

**І я ляцеў душой сваёй і целам,
і дыхаў яе светам залатым —
яна чакае недзе там, у белым,
у ясным, у нябесным, у святым...**

**Але ў святым і векапомным Краі,
як выкідыш, пачуўся я ў тры дні —
там аддаўна жыла зусім другая,
з чужой, варожай і дурной радні.**

**Не цяжка жыць і паміраць, мой браце!
Але за што, за што ляцець на шкло
і без сляда згарэць, і ўсё ж не здрадзіць,
не здрадзіць той, каторай не было?!**



# ЭЛЕГІЯ

**Людзі ўсялякія ходзяць пад Богам,
кожнаму дадзена доля свая —
і не прашу я ніколі нічога,
проста жыву час адведзены я.**

**Смерць параўняе ў шыхтах над зямлёю,
як навабранцаў, пустых і святых —
я не баюся, што будзе са мною
ні ў днях зямных, ні ў вяках залатых.**

**Праўды і той нашым людзям не трэба,
што ж без канца аб красе гаварыць —
хлеб у іх будзе і будзе да хлеба,
толькі краса без астатку згарыць.**

**Так і душа мая лёгкая дымам
проста ў нябесы ўзляціць над гарой,
вецер развее і хмарка абдыме,
дожджык страсе яе слізкай парой.**

**Не шпацыруйце дажджыстай парою!
Схопіць прастуда, захочацца жыць —
і наплывуць невядомыя мроі,
і нечакана душа забаліць...**



# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

Прароцтваў не прыпісвайце Максіму!
Да беларусаў пасылаць Месію
даўно не мела сэнсу — і таму
быў лепшы талент дадзены яму.

І Рыцар Збройны на кані і з мечам,
і сам Гасподзь над родам чалавечым
не раз Айчыну беглі ратаваць —
а нам было заўсёды напляваць!

Як не хацеў ён зноў крывавіць гэта!
Ды боль з адчаем давялі Паэта —
і хворы ўжо, і ўжо на сконе дзён
не вытрымаў: Пагоню клікнуў ён...



# ТРАМВАЙНЫ РАМАНС ДЛЯ МАКСІМА І ВЕРАНІКІ

**Ніяк са мной яе не зводзіла дарога,
і што яе душа, і што душа мая
на сэрца дне былі адны — і так далёка
тым самым светам мы ішлі, яна і я.**

**Але аднойчы гадкім вечарам імглістым,
калі з нябёс цякло на грунт, як з ручая,
а люд у дзверы лез і ціснуў, і так блізка
ў трамваі раптам сталі мы, яна і я.**

**Нас павянчаў за ноч кальцом трамваяў горад,
і верыць я баяўся, што яна мая,
але вось дзень прыйшоў — і селі мы так поруч
ў куце на шлюбе за сталом, яна і я.**

**Там скрыпка плакала і там звінела песня,
не разабраць было нам, дзе душа чыя,
а нас анёлы ўсё тулілі, і так цесна
мы не былі ніколі раньш, яна і я.**



# ЛІСТ ПЯТРУ ГАПАНОВІЧУ ПАСЛЯ ЛЮТАЎСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ 1917 ГОДА

**Эх, Пеця, Пеця… Жыць няма ўжо сілы!
Няма як дыхаць, бо не лёгкія — нарыў.
А нашы дурні зноў пабеглі да Расіі —
ім сорак бочак новы лад нагаварыў.**

**Бог прыбярэ мяне — і ўбачыць не паспею,
як будуць бедных і багатых рабаваць,
спірт неразведзены гасіць і «за Р-расею!»
адзін другога будуць вечна забіваць.**

**А хто з іх, Пеця, будзе белым, хто чырвоным —
ці не ўсё роўна?! Контрразведка і ЧК
адных і тых людзей піхаюць у вагоны,
на баржы грузяць — ад званка і да званка.**

**Мне даў Гасподзь, якому я не верыў,
адно дабро: прарокам я не быў —
я проста жыў, я не зрабіўся зверам,
дзяўчат любіў і Беларусь любіў.**



# ГОЛАС

Крамяністыя вулкі вядуць пад гару,
хмары з Захада мкнуць над крыжамі паволі,
тут пакіньце мяне вы ў адвечным спакоі,
як пакінулі маці — калі я памру.

Я ў Расіі пражыў ад вясны да вясны —
там я рос і сталеў, там я выбіўся ў людзі:
не пытайце мяне вы пра цень Беларусі —
сам не ведаю, хто мне прынёс яго ў сны.

То не я напісаў — гэтак Бог захацеў,
хоць я быў дэмакрат і не верыў у Бога:
і нашто мне цяпер гоман, шум і трывога,
кветкі вашы і слезы — каб я зіхацеў?!

Не хачу сабе долі ніколі такой,
не рабіце з мяне вы святога паэта:
белы Нёман і ў Гродна апошняе лета —
гэта ўсё, што забраў я ў дарогу з сабой.



## 25 МАЯ 1917 ГОДА
## СМЕРЦЬ ПАЭТА

**Ты не дажыў да Актаў і Дэкрэтаў —**
**але не гэта страшна для паэтаў.**
**Адно шкада — пісаць бы мог і жыць.**

**Ты не сустрэў ні трыццаць пяць, ні сорак.**
**Ты не дажыў да чыстак і разборак —**
**ОГПУ не стала справу шыць.**

**А каб дажыў — схавалі б глуха ў шафу**
**і раздавілі ў лагеры, як жабу,**
**пусцілі Слова на распыл ляцець.**

**О, што за Край, пракляты і нялюбы,**
**дзе Кнігу, Волю і Жыццё ад згубы**
**...заўчасная адна ратуе смерць!**



# НЕАДАСЛАНЫ ЛІСТ ДА ЯНКІ КУПАЛЫ

**Я паміраю, стары.
Боль ужо з краю да краю.
Свет разляціцца стары —
цемра за ім маладая.**

**Зменіцца лета зімой —
лёгкай пагоды не будзе.
Хай не спяшаюць за мной
з марай наіўнаю людзі...**

**Як там, Луцэвічаў Ян —
плачаш ізноў пра зямельку?!
Сеяць сабраўся, вась пан?
Сей! Толькі жаць будзе нельга...**

**Слова ў цябе адбяруць —
хаму твой плач непатрэбны,
сэрца тваё абкрадуць —
і пакаленне дарэмна
пойдзе ў пажар і бур'ян,
гнанае ў свет тваім плачам...**

**Слухай, Луцэвічаў Ян,
а ці магло быць іначай?!**

**Я не пясняр. Я юрыст.
Я галавы не губляю.
Я ўсе навукі прагрыз —
долі не будзе ў тым Краі.**

**Будзе рабунак і бунт,**
**кожны ў любога пацэліць —**
**і атутэйшаны люд**
**Польшча з Расіяй падзеляць.**

**А што прыдумала Край**
**ў Вільні масонская ложа,**
**толькі паглыбіць раздрай —**
**так, што ўсіх смерць пераможа.**

**Там, дзе народу няма,**
**простаму ж люду «усё роўна»,**
**можа быць толькі зіма,**
**толькі глухая зіма,**
**толькі гнілая зіма —**
**як у маленстве ў тым Гродна...**



# 1920 ГОД

**Лета здзічэлых садоў раздзіраецца громам.
Чырвоная кавалерыя пераходзіць Нёман.
Сорак пляменаў ідуць, унукі хана Чынгіза...**

**У расхрыстаным Краі паміж Варшавай і Мінскам
чырвоны пыл над зямлёй і свінцовая навальніца,
лета здзічэлых садоў разрываецца громам...**

**Скончылася амуніцыя. Выйшаў даўно фураж.
Неба ў пажарах. Дарогі ў фурманках. Страшны міраж.
Штыкамі, нажамі, лапатамі б'юцца пад Радзымінам...**

**Б'юцца дывізіі з Крэсаў — за чужую Варшаву гінуць.
Але не дадуць яны мачаху ўнукам хана Чынгіза...
Стаіць Варшава. О, чэсць вам, панове, але гэты горад не наш...**



# СТАНІСЛАЎ БУЛАК-БАЛАХОВІЧ

**Час скончыўся. Вайна ўсіх параўняла.**
**Варшава, Вільня, Рыга, Пскоў і Гдоў.**
**І хамы сабе маюць генерала!**
**Шэсць рэнаў. Шэсць франтоў за шэсць гадоў.**

**У Рызе дзеляць — як у грудзі цэляць.**
**Край бацькаў раздзіраюць на шматкі.**
**Адзін твой корпус. Апусцела сцэна.**
**Ідуць на бой палескія палкі.**

**У вёсцы голад. У салонах пышнасць.**
**Бальшавікоў сядзіць у Мінску рацъ.**
**А на цябе — усе пагромы спішуць.**
**З дачкою жыда шлюб няможна браць…**



# ВАЦЛАЎ ІВАНОЎСКІ

**Інжынераў мужыцкаму Краю не трэба.**
**А навінкі яго галаву толькі дурацъ:**
**бо дае ён на кніжкі, дае на газеты...**
**А мужык замест кукіша зноў мае дулю.**

**Нас не купіш, што пан па-мужыцку гаворыць.**
**Тая мова дурная смярдзіць адным гноем.**
**Сам сядзіць у Варшаве, не ведае гора,**
**і браты на пасадах — ці двое, ці трое.**

**Слухай, братка! З Усходу як прыйдуць «саветы» —**
**разнясем на кавалкі Лябёдку мы тую!**
**На той свет хай выносіць сваіх ён паэтаў**
**і няхай на тым свеце іх кніжкі друкуе!**



## БРАНІСЛАЎ ТАРАШКЕВІЧ

**Чаму такі ўжо лёс? Чаму заўсёды позна?!**
**Хоць сам ты на «Граматыцы» сваёй накрэслі крыж...**
**Сярэдняя Літва далучана да Польшчы.**
**А ў польскі Сэйм крычаць — як да глухіх крычыш.**

**У Цопатт тайняком? Па грошы да «саветаў»?!**
**Эх, што з таго жыцця — калі ляцім да зор...**
**І грымне Грамада — кароткая, як лета.**
**У гродзенскай турме даўжэйшы калідор.**

**Мяжа. Абмен. Масква. Чырвоным дробным клеркам**
**цягнуць свой рэферат, сваёй чаргі чакаць**
**да ямы са сваім расстрэльным пакаленнем**
**і думаць, ці пачнуць «Граматыку» чытаць...**



# 1939 ГОД

**Скончыўся перапынак паводле актаў Версаля.**
**Новае пакаленне выступіла ў паход.**
**Танкі ўжо пад Варшавай. «Юнкерсы» над Варшавай.**
**У верасні наступае першы ваенны год.**

**Рыжскі падзел ганебны больш нікога не дзеліць.**
**Танкі даўно за Нёманам. Са слупоў «говорит Москва!».**
**Мястэчка стала райцэнтрам. У мястэчку кірмаш. Нядзеля.**
**Ходзіць зямля пад нагамі. Кружыцца галава.**

**Звыклы пры кожнай уладзе жыць у ладзе і згодзе,**
**люд тутэйшы гадае: які ж гэта будзе лад?!**
**Як быццам усё ўжо скончана... Эх, вясковы народзе!**
**Так хутка ён адгрукоча — у Брэсце супольны парад...**



# ЖЫДЫ
# СОН 1941 ГОДА...

**Лісце ляціць залатое. Каштаны і жалуды.
Сягоння па вузенькай сцежцы ідзем сабе я і ты.
А ўздоўж шашы на Індуру ляжаць пад зямлёй рады.
Гэта яны. Гэта Гродна. Гэта гродзенскія жыды.**

**Было іх тысячаў трыццаць. Нічога па іх. Толькі цень.
Калона ішла за калонай — работы на цэлы дзень.
А рабілі тую работу такія ж, як я і ты,
звычайныя простыя людзі. Каторыя не жыды.**

**Апошняя іх дарога кароткай і простай была.
Свет гарэў, як салома — і людзі гарэлі да тла.
Пакаленне і час другія. Але тое ж расце ізноў —
ідуць сапляікі па бруку... і збіраюцца біць жыдоў.**



# 13 ВЕРАСНЯ 1942 ГОДА
# СКІДАЛЬ. ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ

**Шыбеніца над мястэчкам. Людзей сагналі дзівіцца**
**для «орднунга» і для страху — каб ведалі, пся іх маць! —**
**як восем «савецкіх бандытаў» вяроўкай будуць давіцца**
**за тое, што не спалохаліся Райху ў плечы страляць.**

**Чырвоная Армія драпала — аж чорнае стала сонца.**
**Да сорак трэйцяга года не лезла сюды Масква.**
**Не было каму іх падманваць. Не было каму арганізоўваць.**
**Але на плячах у кожнага ёсць свая галава.**

**Эй, крыкуны сталічныя пра ўплыў пракляты маскоўскі,**
**а ў сон крывавы не хочаце пайсці са мною назад?!**
**Там крайнім на доўгай бэльцы вісіць Анатоль Зелянкоўскі...**
**Старэйшы брат мае маці, а мне ўжо малодшы брат.**



## МАЦЕЙ КАЛЕНКЕВІЧ-«КОТВІЧ»

**Хутар Сурконты. Лес. Трыццаць пяць палякаў.**
**Скончылася адна — ідзе другая вайна.**
**Вільню ўжо адабралі. І дарогі нідзе ніякай.**
**Лета сорак чацвёртага. «Котвічу» доля адна.**

**Доля парашутыста. Ноччу ступіць з самалёта,**
**потым блукаць у балотах, нарэшце дайсці да сваіх.**
**А вайна зусім не такая. Другая зусім перамога.**
**Ды малая птушка з маёра, каб спяваць аб справах такіх.**

**Доля парашутыста. Руку адаб'юць па локаць.**
**Рэха стрэлаў і крыкаў замуруе возера шкло.**
**Гадкая гэта работа. Горкая асалода.**
**Скочыў у Польшчу, а Польшчы там ужо не было...**



## 1976 ГОД
## МІНСК

Над сталіцай саюзнай рэспублікі
ні хмаркі ў спакойным небе.
Лепшыя хлопцы з мястэчак
спакойна едуць вучыцца.
Нашы савецкія танкі
спакойна стаяць на Эльбе.
А ў крамах стаяць спакойна
гарэлка, цукар, гарчыца.

А па-за сталіцай рэспублікі
калгаснае жыта красуе.
Няма авантуры афганскай —
няма афганскіх герояў.
Нідзе не відаць беларусаў —
ніхто іх не паланізуе.
Жывуць спакойныя людзі
без клопатаў і без мрояў.



# ЗІМА І980 ГОДА

**Танцпляцоўка пустая пад мокрым снегам.**
**Сквер у самым цэнтры мястэчка.**
**Грае ў сне аркестра самотных сэрцаў.**
**Хлопцы з восені служаць у войску савецкім.**

**Над скверам хмара вісіць анучай.**
**Скандал пачаўся ў кнайпе суседняй.**
**Танцаваць вучыся, а жыць гора навучыць.**
**У мястэчку зімой штотыдзень вяселле.**

**Свецяць экраны блакітныя ў вокнах.**
**Вайна далёка. У Афганістане.**
**Ну і што з таго, што хлопцы ў тым войску?**
**Адслужаць і прыйдуць. Абы дзеўкі чакалі.**

**Стала цяжка. З мясам. Потым — знік цукар.**
**Старая «Лазьня» робіць адно па суботах.**
**Толькі трое вярнуліся ў цынкавых трунах.**
**У адной панажоўшчыне згінула болей.**



# КРЫЖАКІ

**Горка. Дзеці. Жыжа ляціць з-пад санак.
Побач ваенны завод. Новы крыжацкі замак.
Далей — шырокая вуліца, прабітая да ракі.
І ездзяць вуліцай гэтай у тралейбусах крыжакі.**

**Дзеці савецкай халявы. Ні племені, а ні роду.
Ехалі на каўбасы з прамысловага Ўсходу.
Бронзавы Ленін на плошчы як калектыўны партрэт.
Кажуць — сям'я галоўнае. Але ж мэта жыцця абед.**

**Мэта жыцця абед і ў тутэйшых кнехтаў таксама.
Сядзіць па дурных інтэрнатах ачмурэлая вяскаўня.
Горка. Дзеці. Жоўтая жыжа ляціць з-пад санак.
Падрастае новая нацыя. Нацыя без імя.**



# МУТАНТЫ

Апахмяляемся мутным гурковым расолам.
Потым завод. Прахадная з плакатам вясёлым.
Потым — жалезная жоўтая бочка і купка сяброў.

Потым — працэсія! Складчына пад «Гастраномам».
Кожны тутэйшы з рублём будзе лепшым знаёмым.
А тут усё ж трыста тысяч жыве жыхароў.

Родны ваенны завод у сярэдзіне васьмідзесятых.
Тысячы простых рабочых у чорных і белых халатах.
Не пераводзіцца дачны гурковы расол.

Правадыры — паміраюць. Штогод на заводзе жалоба...
Мутныя дні настаюць. І здаецца, на шыі народа
чорцік сядзіць і стругае асінавы кол.



# НА ПРЫПЫНКУ АЎТОБУСА

**Цяплынь на вуліцы. Але на сэрцы восень,
мястэчка ў клопатах, а ім няма канца,
будуем, кормім, дастаем, прывозім —
ад Касцюковіч і да Камянца.**

**Сябе мардуем працаю і крыкам,
а Бог не слухае — і церпіць, як раней,
калі той плён адным глыкае глыкам
краіна цудаў, брудаў і свіней.**

**Куды што знікла? І мястэчка тое,
што хвалявала, грэла і цвіло,
і ліпаў зіхаценне залатое,
і дом, і двор... А ці яно было?**



# ПОЛЬСКІ ЭЦЮД

**Цяжэй за краты цяжар волі,
бо кожны мае каляіну,
мы разыйшліся — і ніколі
больш не паедзем на радзіму.**

**Нам не па дваццаць год з табою
і пачынаць наноў не будзем,
але — так і няма спакою
старэючым дарослым людзям.**

**Мне і дагэтуль сніцца часам
пад ціхі голас успаміну,
як удваіх з табою разам
вясной паедзем на радзіму.**

**Там і цяпер старая сліва
на стрэху белы цвет губляе,
і сэрца беднае шчасліва
ад прыгажосці замірае.**

**Цяпер і ты далёкай стала,
і я свайго жыцця не кіну,
але пакуль не ўсё прапала,
давай паедзем на радзіму.**



# ДАЧКА

Ляці вышэй, мой белы галубок!
Пакуль чакалі са слязой і мрояй,
вялікая імперыя ў наш бок
затрэсла публіцыстыкай і зброяй...

Мой цёпленькі заспаны матылёк,
на сэрцы бацькі ціха склаўшы крылы,
ляці вышэй! Бо не відаць здалёк,
як прымуць нас канавы і магілы...

Ляці вышэй! Пакуль не вырас ты
і маеш час — пакуль праз кроў і зімы
цябе таксама клікнуць у шыхты
і бацькаў цень, і вечны лёс радзімы...



# ЗВАР'ЯЦЕЮ АД РОДНАГА КРАЮ

**Звар'яцею ад роднага Краю!
Тут зламаюць любое скрыдло,
і прабачаць, і прымуць да раю —
абы толькі ўсё ціха было.**

**Шчодрасць наша мацней усіх звычак.
Тут астатняе ў душах святло
аддадуць, прададуць і пазычаць —
абы толькі ўсё ціха было.**

**Што дурны, што занадта свядомы.
Паяднала іх даўняе зло,
выракаюцца сына і дома —
абы толькі ўсё ціха было.**

**Горш ад сварак усіх і ад спрэчак
і халодных выгнанняў люцей
абыякавасць родных мястэчак
і бязлітаснасць блізкіх людзей.**



# СЛІМАК

**На лузе дзядзька статак пасе.**
**Дробненькі дожджык ватоўку змачыў.**
**Слімак па лістоце адвольна паўзе.**
**Алкагалізм паэт падлячыў.**

**Стаіць на ганку і паліць ён.**
**Глядзіць на дзядзьку — бачыць народ.**
**Сніцца і ўдзень яму вечны сон —**
**пра Астрожскага і на Смаленск паход...**

**Дзень святы. Думкі — далёка пруць.**
**Верасень. Вёска. Поле і рэчка.**
**Слімак паўзе. Жыве Беларусь.**
**Цяпер і прысна, і вечна.**



# НА ВУЛІЦЫ ЛЕНІНА Ў ГРОДНА

**На вуліцы Леніна ў Гродна Ленін не жыў ні дня**
**і ні дня не жыла тут ленінская радня.**
**Але на вуліцы Леніна ленінцаў шмат жыве.**
**Ленінцы — гэта ў каго ўсё правільна ў галаве.**

**На вуліцы Леніна ў Гродна да камунізма крок.**
**У цемры кожны свабодны. На вуліцы плюта і змрок.**
**Але за вокнамі лямпачкі ленінскія гараць,**
**а людзі з блакітных экранаў жывым не даюць паміраць.**

**Лезе з тых тэлевізараў казка аб вечным цудзе.**
**Новага зробім Леніна — калі надакучыць той.**
**А што жывем, як прыходзіцца, у запоі, звычцы і брудзе,**
**то болей ніхто на свеце не мае веры такой...**



# НОЧЧУ НА ХУТАРЫ

**Па вячэры не выйшла размова ізноў.
Неяк душна і сумна. Газніца гарыць.
Заблукаў гэты Край паміж яваў і сноў.
І пара́ перастаць пра яго гаварыць.**

**Нешта вечнае мроіцца ў гэтай глушы.
Лёс пачатку не меў — і канца смерць не дасць.
Слепа бліскаюць фары на блізкай шашы.
Толькі поле кругом — і няма дзе прапасць.**

**Не прапасць і не згінуць у цемры такой,
дзе адны матылькі не баяцца святла,
дзе спакой нібы смерць і дзе смерць як спакой,
і дзе некалі наша Айчына была...**



* * *

*Дануце Бічэль*

**Агідна часам жыць, а часам міла**
**з тае пары, як нас з табой прыбіла,**
**як два лісткі, адзін да аднаго.**

**Што зробіш, мы такія ад прыроды,**
**а тыя грошы, школы і заводы**
**няшмат пакінуць людзям сваяго...**

**І цягнемся наіўнымі радкамі**
**мы — самі жабракі — між жабракамі**
**дарэмна да нябёс ці да гары́.**

**Але пакуль зноў едзем гэтым Краем**
**да Мінску ці да Рэні з Мікалаем —**
**і што яшчэ хацець ад той пары?**



* * *

**Там, на стоках, дзе Гаўя і Нёман спляліся,**
**з хмызнякоў аблятае апошняе лісце,**
**луг даўно пабялеў ад мінулай жары.**

**Тут, у месцы, панурыя людзі на бруку**
**абляпілі прылаўкі — і вечнасць па кругу**
**гоніць нас, круціць час праз пустыя двары.**

**А за блізкай мяжою пад мовай чужою,**
**як і тут — з непатрэбнай нікому душою,**
**нехта блізкі, нармальны, жывы, такі сам.**

**А на вуліцах бруд ад бясконцага гандлю,**
**а душу пацягнула на Нёман і Гаўю,**
**а ў душы анічога — як выкінуў хлам...**



* * *

*Міхалу Адаміну*

**Чорны парк і чорны горад назаўсёды тут.
Гандлярам з Літвы і Польшчы ціхі родны кут.
А сталічным публіцыстам тэма для змагання.**

**Закапаліся ў гісторыі мясцовыя сябры.
Спяць ад мітынгаў да мітынгаў за праўду змагары.
Атрымалі ўсе працоўныя адхланне.**

**З каньякамі і цукеркамі свабоды не знайсці.
За зялёныя паперкі гінуць людзі пры жыцці.
Але ўвогуле народ — не памірае.**

**Чорны парк — і дзеці сумныя. Вечны выхадны.
А ніхто не бачыць выйсця ў залатыя сны.
Карацей казаць, гісторыя старая...**



* * *

**У Вільні — як у Вільні. Цэлы свет.
Старыя брукі. Цесна ад касцёлаў.
Аблокі нізкія над вежай Гедыміна.**

**За ўласнаю душой ступаю след у след.
За паланезам восені мясцовай.
За пахам вапны, бітума і дыма.**

**Кавярня. Сорак нацыяў кругом.
Каньяк і ром ў шкляной вітрыне бара.
Скупыя кроплі ззяюць, як чмялі.**

**Тут, як у сне, далёкі родны дом.
Пад ліпаю прытуленая пара.
Ах, Вільня, Вільня... Месца на зямлі.**



* * *

**Дарога цягнецца. Спякота дражніць громам.
Перапаўзае абмялелы Нёман
аўтобусам падняты ў неба пыл.**

**Царква. Тры крамы. Белая авечка.
Ці дажывае, ці то спіць мястэчка,
бялізну звесіўшы, як мах апошні крыл.**

**На аўтастанцыі мужчыны цягнуць піва
з літровых слоікаў — і цягнецца цярпліва
размова вечная, як гэтая зямля.**

**Пра сушш, пра Сталіна, пра бабаў, пра зарплату,
пра тое, што парторг будуе сыну хату,
і да каго яшчэ схадзіць узяць рубля.**



* * *

**Заўсёды так. Спачатку звычка вечная,
за ёй прасвет ды ісціна бясспрэчная,
за ёй імёны ўсіх святых яе.**

**І хлапчукі з надзеямі зялёнымі
ідуць сляпой калонай за імёнамі,
а не за ісцінай — бо што яна дае.**

**А потым між святымі нешта станецца,
адзін паесць другога — і праглянецца
другая ісціна і трошкі іншы лад.**

**А хлапчукі, увагі не звяртаючы.
на гэткі дробязг, йдуць не разважаючы —
назад, набок, наперад і назад.**



* * *

**Так лёгка навучыцца ўладу браць.**
**Так цяжка потым жыць і паміраць —**
**ні веры не мяняючы, ні Краю.**

**Так лёгка веру мець — каго далоў,**
**Так цяжка зразумець, каго ж ізноў**
**паставіць, каб не мець такую ж зграю.**

**Так лёгка жыць сумленна — аднаму.**
**Так цяжка выбіраць за лёс турму**
**з нагоды... разыходжання з сябрамі.**

**Так лёгка з пераможцам сябраваць.**
**Так цяжка потым вочы адкрываць**
**натоўпу за сляпымі змагарамі.**



* * *

**Вечны дзятлік дзяўбе і не можа прабіць
тую глуш, у якой задыхацца і быць
так, як быццам не быў ты ніколі.**

**Што тваё і што маеш з маленькіх надзей,
гэта ведае кожны з маленькіх людзей,
перабраўшых маленькія ролі.**

**Лёгка ўсё разумець і разумнаму піць!
Толькі дзятлік дзяўбе і не можа прабіць
тую крыўду — на час і на Бога.**

**Зрэшты, нават не крыўду, а выбар пусты,
ды яшчэ невядома — ці сам выбраў ты,
ці ўжо так павярнула дарога.**



* * *

**Калі ўсё скончыцца, мы будзем — як святыя.**
**Ні чаркі поўныя, ні ножкі маладыя**
**не зацікавяць кожнаю парой.**

**Нарэшце слова гонару стрымаем,**
**што больш не ашалеем і не маем**
**агульнага нічога з воляй той.**

**А сапраўды, навошта воля тая,**
**калі ўсё скончыцца — і Беларусь пустая**
**забудзе мёртвых і прадасць жывых.**

**Але заўжды патрэбна будзе воля,**
**таму што ўсё не скончыцца ніколі —**
**і дых займе ад дзевак маладых.**



# ПРАГУЛЯНКА ПА СТАРЫХ ВУЛІЧКАХ

**Апошнія метры бруку**
**ад горада засталіся.**
**Сон белай восені.**
**Сон чырвонага лісця.**
**Куды гэта дарога?..**
**Дарога ідзе нікуды.**
**Гэтаксама — як нікуды**
**мы ўсе ідзем праз гады.**

**Кожны прафесар ведае,**
**што сэнсу не мае жыццё.**
**Але жонка прафесара ведае,**
**як той любіць жыццё сваё.**
**Гэта ж ясная справа.**
**Так было і будзе заўжды.**
**І навошта нам праўда?..**
**Дарога ідзе нікуды.**



## «ТУТЭЙШЫЯ»

*Сакрату Яновічу*

Малюнкі старога парка.
Гуляюць сабакі і дзеці.
Мужыкі ў даміно малоцяць.
Пралятаюць эпоха і ўлада.
У палацыку — гауптвахта.
Салдацік змятае смецце.
У старым тэатры — «Тутэйшыя».
Пух таполяў, як брудная вата...

Парк памірае ціха.
Ні страшней, ні лягчэй за людзей.
Людзі з чэргаў да чэргаў
праз парк бягом прабягаюць.
Жыццё такое кароткае...
А паркам — усё ж карацей.
Вось і бягуць тутэйшыя,
якія нічога не маюць.



# СТАНЦЫЯ РЫБНІЦА

**Грыбоў у лесе — як перад вайной.**
**Дажджы пайшлі. Палезла вёска ў боты.**
**Цяпер калгасы поўныя банкроты —**
**дык люд работай корміцца адной:**

**лісічкі за даляры прадаваць**
**літоўцам, рускім, немцам і палякам.**
**Што ж, трэба жыць пры ўладзе пры ўсялякай —**
**касіць, даіць і малако здаваць.**

**Край гэты прадалі даўным-даўно.**
**Адны лісічкі ў лесе засталіся**
**і вера, што паможа Бог калісьці,**
**і дзень за днём размовы пра адно.**



# КАЎНАС ВЯСНОЙ 1990 ГОДА

**У цесных вулічках блукае цішыня,
як памяць лёгкая наступных пакаленняў,
якія не заўважаць нашых ценяў...**

**Зялёны клён. І голуб залаты.
Чырвоны шыхт ганзейскіх камянічак.
У час трывогі не мяняюць звычак
суседзі нашы. Сёстры і браты.**

**Спакойны дзень — як у калысцы сон.
На тварах годнасць. Чысціня на бруку.
Тут перанеслі ганьбу, кроў і муку —
перанясуць і гэтых сорак дзён.**

**Блакада. Крыкі. На стары матыў.
Абураны працоўныя ў Разані...
А летні дожджык светлымі слязамі
званы касцёлаў ціха абудзіў.**

**Як Нёман белы, час плыве далей.
Няшчасных нараджае і шчаслівых.
Каб мы жылі і верылі смялей.
І гналі смутак добрым чорным півам.**



## ШЭСЦЬ СОТАК

**Шэсць сотак гуркоў і бульбы.
Домік. Бочка з вадой.
Так выжываем пакуль мы.
Няма дарогі другой.**

**Няма яе — і не трэба.
Абы горш не было.
Здурэла і так планета.
Навокал падман і зло.**

**Не маюць наіўных мараў,
бо ў гэтым жывуць жыцці
ўнукі лагерных нараў,
дзеці сотак шасці.**



# АПОВЯД ШАТЛАНДСКАЙ АЎЧАРКІ БОНЫ ПРА СВАЕ КАНІКУЛЫ Ў ВЁСЦЫ БІСКУПЦЫ ЛІДЗКАГА ПАВЕТА, КАЛІ ГРЫМНУЛА РЭВАЛЮЦЫЯ 1991 ГОДА, А ТАКСАМА ПАДРОБКА ПАД ЯЕ ГАСПАДЫНЮ ДАНУТУ БІЧЭЛЬ

Лёс у сабакаў сабачы.
Пуста ў людзей за душою.
Мы з гаспадыняй на дачы
марна шукаем спакою.

Знікла шляхецкая мужнасць.
Правіць савецкая раса.
Братніх народаў садружнасць
з'ела сабачае мяса.

Цэлае лета пацею,
нешта шукаю па кучах.
Кажуць — канец Дземянцею.
З'елі яго разам з путчам...

Кожны тут зубы ашчэрыць...
Просты тут Край — як малітва.
Менскам кіруе Шушкевіч —
вёскай кіруе паўлітра.

Морду паклаўшы на лапы,
ціха драмлю да абеда...
Кажуць вясковыя бабы,
што заваюць нас шведы.

**Нос не высоўваю з дома,
гэта ў маіх інтарэсах —
шастаюць цёткі з райкома,
нібы ваўчыцы, па Крэсах.**

**Нехта пра ўладу загаўкаў,
нехта вішчыць пра свабоду...
Людзі не любяць сабакаў,
Бог не спрыяе народу.**



# ПЕРАПЫНАК

**Мы прыходзім да згоды,
што жыць болей нельга вось так.
Мы чакаем з надзеяй,
што нехта навучыць, як трэба.
Мы працягваем сніць,
што паявіцца збаўца даць знак.
Мы стаміліся жыць
вечным пошукам шчасця і хлеба.**

**А між тым ужо восень —
спыніўся і сціпшыўся час,
дождж зацяглы заліў
ад Юрацішак да Астрынаў.
Мы ўжо млява і квола
выпрошваем хоць бы адказ,
ці палохаем страйкам —
у абедзенны перапынак...**

**Мы? А хто мы такія?
Жыцце абышлося ніяк
з нашым лёсам і плёнам,
і тлёнам, і ценем народа,
і астатняй згрызотай...
І цэлы народ — як жабрак.
Хочаш — тут прападай,
хочаш — едзь, куды хочаш.
Свабода...**



# НОВАЯ ГАЛІЛЕЯ

**З-пад нябёсаў паваеннай Еўропы
дзіўна выглядае
цьмяны абшар ад Балтыкі да Крыму —**

**Польшча,
зблуканая між ружовых аблокаў
і легалізаванай мацернай лаянкі,**

**Летува
з яе соснамі, дзюнамі, крыжамі ля дарогаў,
пры саветах піва не разбаўлялі,
а цяпер разбаўляюць,**

**Львоў,
які хоць мільённы, але старажытны,
бо мітынгі ўсё адно правінцыйныя —
і ніхто не памятае, чаго ён хоча,**

**далей Палессе:
новапаўсталыя яцьвягі,
Мыкола Шэляговыч,
ахвяра выпіванак з паэтам і бардам Сокалавым-Воюшам
і жартаў памянёнага барда наконт яцьвягаў,
чого Мыкола нэ зрозумів —
так паўстаюць нацыі,**

**далей Гародня —
асірацелы без сацыял-дэмакрата Ткачова клуб «Паходня»
асірацелая без ідэі газета «Пагоня»,
свая танкавая дывізія,
свой хімічны камбінат,
свая местачковая мафія з яе квітнеючым сепаратызмам,
бо ад таго Менску адны падаткі і ніякага толку,**

за сто кіламетраў Ліда,
дзе трыццаць гадоў адбудоўваюць стары замак,
ставяць помнікі Міцкевічу, Скарыне і Гедыміну,
а піва пакуль што не разбаўляюць,
а потым едзь сабе да Вільні, да Нёмана
і хоць да тае вёскі,
дзе раз за жыццё нават літаратараў пояць гарэлкай
майстры тамтэйшай конегадоўлі,

далей —
Біскупцы, Морына, Іўе, Бакшты, Ракаў
і другія мястэчкі
прадукуюць геніяў з пакалення на пакаленне,
і нарэшце — сталічнае мястэчка Менск,
якое збывае гэтых геніяў невядома куды.

«Жыве сабе Беларусь...».

доўгі нізкі туман
поле балота пясок вёска
туман туман туман
рыпіць воз фыркае трактар
дробны дробны дробны дождж
год і дзень усё роўна якія

вецер каласы варушыць
на бясконцым абшары Новае Галілеі
чакае простага чалавека
які пойдзе па жыцце — як па вадзе



## ПРА АДНО

Адзічэлы ля хутара сад.
Белы колер пануе ізноў.
Пазірае палітык назад.
Сакратар не шкадуе слоў.

Дзед сівы заматаў галавой.
Піянерскі запал і узрост.
Трактар песняй гудзе баявой.
Партызаны мініруюць мост.

Птушкай хочацца мне паляцець.
Пазірае гісторык назад.
Абы толькі чаго захацець.
Не схаваецца вораг і гад.

Сакратар пазірае арлом.
Партызаны патрэбныя зноў.
А па Нёмане прэ крыгалом.
І ніхто не шкадуе слоў.



# ПАСТАРАЛЬКА. 1992 ГОД...

**Край без імя, прозвішча і даты нараджэння**
**спрабуе паўстаць з магілы,**
**робіць поспехі —**
**ужо стаіць на каленях.**

**Абяцаюць новыя пашпарты — як у Еўропе.**
**Толькі імя і прозвішча —**
**каб ніякай этнічнай, расавай і сацыяльнай дыскрымінацыі!**
**Але — паўстае праблема: як пісаць?!**
**Шушкевіч Станіслаў Станіслававіч**
**альбо —**
**Шушкевіч Станіслаў, сын Станіслава?**
**Каб не наслядаваць «імпэрскую Расею»...**

**А тут яшчэ мясцовыя палякі плачуць,**
**што іх пазбавяць польскасці,**
**касуючы пятую савецкую графу,**
**дзе «русским языком» сказана, што яны палякі.**
**Край раздзіраюць дзве праблемы нацыянальнага адраджэння —**
**бензін і цукар;**
**праблема самога адраджэння вырашаная —**
**мова стала дзяржаўнай.**
**А якая дзяржава — такая і мова.**
**Беларускія батальёны рыхтуюцца да бітвы —**
**за ўраджай на палях братняга Казахстана:**
**аплата па дамоўленасці.**
**«...з нашым войскам незале-ежным**
**да сваёй зямлі адзі-інай...»**

**Ні кроплі дажджу.**
**Збялелая трава на лугах і пустках**
**Новае Галілеі.**

# МЯСТЭЧКА

**Плошча з райкомам і кінатэатрам.
Рэстаран забіты на сорак дошак.
З навіны толькі два кіёскі прыватных.
Іх палілі, ламалі, шукалі грошы.**

**А над шыферам стрэхаў сярэдняя школа
ўсіх вышэй тырчыць аж на тры паверхі.
Царква не выйдзе з рамонта. Троху лепш у касцёла.
Але ж гэта ўспаміны ды сантыменты...**

**Лепш не можа тут быць. Тут людзей разагналі.
Местачкоўцы адны паміраць засталіся.
Шафярня вясковая свае тралі-валі
рассыпае кругом, як кляны ў старым парку лісце.**



# ПОЗНЯЯ ВОСЕНЬ

**Смецце. Восень. Смярдзіць плацкартным вагонам.
Сніцца разбураны хутар. У печы агонь дагарае.
Сала. Міска з блінамі. Спацелы графін з самагонам.
Смутак. У бліжнім лесе рэха грыбы збірае.**

**Сцежка бяжыць пустая. Прымаразак. Павуціние.
Гайдаецца час павучком. Абрываецца вечным лёсам...
Лягчэе ў кішэні пляшка. Пуста цяпер у Айчыне.
Спакой — як пух за труною, прыбіты першым марозам.**

**Ах, тая восень... Болей такой ніколі не будзе.
Так лёгка думкі да смерці падыходзяць паволі,
калі абрыдла хавацца ў нармалёвыя людзі
двум адзінотам бяздомным на хутары ў вечным полі...**



## TERRA NULLIUS

**Зямля Нічыя і нам зямля не чужая.**
**Толькі што часта ездзім і пераязджаем.**
**На вайну. На работу. На халтуру і на шабашку.**
**Жыць не цяжка. Мець зямлю сваю — цяжка.**

**Зямля Нічыя. Адна такая на свеце.**
**Старыя здыхаюць. І ўжо паміраюць дзеці.**
**Але дзе памерці народу, які з волі ўласнай здыхае?!**
**Нават магіла любая гаспадара свайго мае...**

**Лётаюць над базарамі— як вароны над пожняй! —**
**надта ж хітрыя людзі паміж Расіяй і Польшчай.**
**І месца з кожнага краю па-хітраму нам адвялі...**
**— Слухай, што за прыдурак?! — Той? З Нічыёй Зямлі.**



# РАНАК

**Зіма выкідае свой белы сцяг.
Чалавек пражыты год выкідае.
Смецце мяце гаспадар па гасцях.
Гандляры вамятаюцца аж да Кітая.**

**Пачынаецца постсавецкі пост.
Засынае тутэйшы люд па кватэрах.
Час павольна ідзе праз нёманскі мост.
Два крокі назад і адзін наперад.**

**Куды ж нам плыць, перавозчык Харон?
Зараз схопіцца грудай адліга...
Ваяваць з Еўропай — каб здацца ў палон?!
Ці зусім уцякаць адсюль ціха — да ліха?!**

**Ці лепш... не плыць? Бо — і так прыплылі.
Тым не страшна прапасць, хто даўно прапалі.
На рублях і далярах важаць нулі.
І быць хоча нулём краіна сляпая.**



## ЯЦЬВЯГІ

**На густым павуцінні рэкаў.
На пражылках замерзлых венаў.
На шляху з варагаў да грэкаў.
На падмостках вялікіх сцэнаў.**

**На руінаў замецены жаху.
Не баімся з Богам змагацца.
Больш няма ні паганскага страху,
ні каштоўнасцей хрысціянскіх.**

**Мы — яцьвягі. Нас не забілі.
Гэта мы абдурылі лоўка.
Навукоўцы наш след згубілі.
Нашай верай ёсць маскіроўка.**

**Мы прыймаем любую моду.
Абы добра жылося люду.
Тэхналогію. Зброю. Мову.
Перуна. Ісуса. Камуну.**

**Мы сабой не былі ніколі.
Край не стаў ні пеклам, ні раем.
Прасядзелі ў дурным падполлі —
і па дурасці паміраем.**



# СІФАНАФОРА*

**Край бульбяны разоры не страціць.
З кожнай кветкі смокча пчала.
Плодзіцца бульба без бацькі і маці.
Абы гной — каб добра расла.**

**Простая вера той Край трымае.
Жыць — каб зноў пладзіцца і жраць.
Не паміраем. Бо дна не маем.
І каранёў не трэба шукаць.**

**Нам усё роўна, якое поле.
Скачам у пекла — як бульба ў рот.
Мы ж грамада. Мурашнік. Супольнасць.
Сіфанафора. Бульба. Народ.**

---
* *калонія планктонападобных*



# ЗОНА

**Мы даўно не правінцыя і не сталіца.
Нормы. Карткі. Кантроль. Зусім як на зоне.
Што казаць, беларусы любяць дзяліцца...
Беларусы дзяліцца любяць. Казённым.**

**Разабралі Айчыну да ніжняй цагліны.
На калгасы і соткі Край расцягалі.
А нядаўна... цэлы свет падзялілі —
на сваіх і чужых, і чужых разагналі.**

**Ад падзелу Керзона такія мы людзі —
разам толькі п'ем, калі бульбу капаем.
Мы адзіныя ў тым, што дзяліцца любім.
Бо — нічога свайго за душой не маем.**

**А калі тая пустка ў душы, як зараза,
не дае ні спаць, ні Богу маліцца,
дзень і ноч гундосім, што трэба быць разам,
і яшчэ мацней нас чэша дзяліцца...**



# БАЛАДА ПРА ВЫСОКАМАРАЛЬНУЮ ГРАФАМАНКУ, АЛЕ НЕ ГРАФІНЮ АЛУ ПЕТРУШКЕВІЧ, КАНДЫДАТА Ў ДАКТАРЫ ФІЛАЛОГІІ

Што свет шалёны — няма вінаватых.
Ні польская ўласць, ні савецкая ўласць...
Крадуць маёнткі, фальваркі і хаты.
У нас немагчыма жыць, каб не красць.

Месяц за месяцам. Год за годам.
Крадуць маральна. І без маралі.
Я абакраў Багдановіча з Бродзкім.
Графаманы з Гродна мяне абакралі.

Не паспявае рука за ротам.
Жраць заўтра захочам — бо ўчора жралі.
Зніклі са свету годнасць і гонар —
нядаўна міліцыю абакралі.

Крадуць усе. Хто многа, хто мала.
Крадуць з бяды. Крадуць з настальгіі.
Не крадзе адна Петрушкевіч Ала —
за яе шчыруюць муж і другія.



# БАЛАДА ПАСЛЯ БАЛЮ З НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ЭЛІТАЙ

**Не хачу на Павонзкі ці Новадзевічае.
Бо спакою ад Крэсаў нідзе не чуеш.
Не хачу выпіваць з Аляксеем Пяткевічам —
з ім гарэлку нават толькі змарнуеш.**

**Лезла вёска і лезла — і павылазіла.
Не хачу ўплятацца ў тутэйшы букет.
Тут заморскім гасцям лепяць honoris causa
і спяваюць, што маюць Універсітэт.**

**Не хачу я клікаць — мяне б хоць не клікалі.
Не хачу з элітай губляць зрок і слых.
Не друкуйце мяне тыражамі вялікімі —
лепш пазбаўце мяне ганарараў малых.**

**Не хачу багацця — пазбаўце беднасці.
Тыя ж Крэсы бедныя... на людзей.
Тут супольна здыхаюць бедныя ў еднасці
і аднолькава прагнуць ніякіх падзей.**



# БАЛАДА ПРА ГАСПАДАРА ЗАБЯГАЛАЎКІ «БАТЛЕЙКА»

**На свеце пуста. На свеце гола.
Беларусь співаецца ў дрыбадан.
Не п'е адзін Таранда Мікола.
Адначасова — і пан, і спадар.**

**Таранда — спадар палітклуба «Паходня».
Там пляткуюць пятнаццаць гадоў
дзяды з залатога пенсійнага фонда
і сапляки з апошніх радоў.**

**Таранда — пан паграбка «Батлейка».
Піва з гарэлкай лье папалам.
Там ужо спіўся Юра Карэйва
і цэлы Фонд Сораса ў свой семінар.**

**А што б тут зрабіла любая разведка?!
Нічога б яна не зрабіла тут...
Але Таранда — эпохі сведка.
Таранда зробіць капут. Без пакут.**



## БАЛАДА
## ПРА МЯНЕ, ПРА САВЕЦКУЮ ЖОНКУ ЛЮБУ
## І ПРА ЧОРНАГА КОЦІКА ЮСТАСА

**Ранак на Беларусі.
Зіма. Канчаецца год.
Слухае радыё Юстас.
Чорны бліскучы кот.**

**Божа, пакінь надзею,
не забірай яе,
што Юстас не разумее,
як гэты свет жыве.**

**Пустка — яшчэ не згуба.
Рана вяроўку віць...
Ды жонка савецкая Люба
хоча... прыгожа жыць.**

**Лезе ў той свет — як палена.
Аж ліжа, як эскімо...
Тое, што нам не трэба,
бярэцца аднекуль само.**

**Кепска ты, Юстас, трапіў.
Людзі — яны не памруць.
Але — што суддзі, што бабы —
цябе ў мяне адбяруць.**

**Кожны з нас будзе ценем,
рэхам адной зімы —
абодва асірацеем...
Без смерці і без вайны.**

# МАЎЗАЛЕЙ

**Мільёны кітайскіх жаўнераў з гліны**
**труну імператара ў лабірынце**
**сто гадоў будаванай сакрэтнай магілы**
**пільнуюць ад Бога, які не прыйдзе.**

**Мільёны кітайскіх жаўнераў бяссонных**
**вечную службу спаўняюць спраўна,**
**жаўнеры з гліны не чуюць стомы,**
**жаўнерам з гліны хвала і слава.**

**Мільёны кітайскіх жаўнераў з народа**
**разам з Панам сваім скамянелі —**
**толькі дурню патрэбна свабода,**
**а хітры быць хоча ў тым маўзалеі,**

**дзе час праплывае вечны і ясны,**
**дзе голад і холад не мучаюць войска,**
**дзе роўныя Неба, Улада і Рабства,**
**а жыць — навошта, навошта, навошта...**



## КАЛЬКУТТА

**О, прарадзіма**
**Чалавека, Агню і Жалеза!**
**Стала ў Індыі зімна,**
**як памерла Маці Тэрэза.**
**Бога яна не прасіла —**
**сама рабіла работу.**
**Нікога яна не хрысціла —**
**адных перад смерцю сіротаў.**
**Не высокая. І не дужая.**
**Пражыла так доўга... Так мала.**
**Ратавала не душы —**
**жывых людзей ратавала.**
**Цудаў яна не ўчыняла,**
**не казала казак аб цудзе.**
**Проста людзям жыць памагала —**
**і лягчэй стала жыць у Калькуцце.**

**Ёсць іначай на Крэсах.**
**Тут бядою не голад з хваробай...**
**Бог адзін разбярэцца,**
**што зрабілася з гэтым народам!**
**Тут адзіны вялікі калгас**
**праглынае жывымі нас.**
**Тут бабулька рэдкая верыць у Бога.**
**Ватыкан пільнуе адны аборты.**
**Тут кішкамі прагнуць — а не душою.**
**І гандлюе гарэлкай Царква з Масквою.**
**Тут чэкісты лысыя і сівыя**
**сняць пяцідзесятыя, саракавыя.**
**А Зянон Пазьняк з-за польскай граніцы**
**сапякоў заклікае адважна біцца.**
**Тут любы чыноўнік, з крэсла сагнаны,**
**дэмакратам робіцца без заганы.**

**А любы камуніст, што здыхае пад плотам,**
**самым шчырым робіцца патрыётам,**
**і бяздонны гумовы калгас**
**праглынае жывымі нас...**

**О, прарадзіма**
**Чалавека і Звера...**
**У ільготах чарнобыльскіх**
**твая адзіная вера.**
**Ты здурнела дашчэнту.**
**Ты збялела насмерць, як мел.**
**Ты сама націскаеш на прэзідэнта —**
**каб хутчэй, каб хутчэй адстрэл!**
**Ты дзяцей праядаеш.**
**Ты даўно жывеш — як па смерці.**
**Ты сама сябе выкідаеш**
**ўсяму свету на смех, як смецце.**
**Ты здыхаеш не ўпершыню.**
**Ты не хочаш выходзіць з лесу.**
**Ты не верыш... у дабрыню.**
**І ў Маці Тэрэзу...**



# ДОМ

У пагоду і ў непагадзь
стукаюць дзверы ў шэрым панельным доме.
Ноччу і днём
нехта рухаецца і нешта рушыцца.
Пры дэмакратыі і пры дыктатуры
адзін смяецца, а другі стогне.
За дзвярыма лаўка зламаная
і на ходніку вечная лужына.

Спяваюць і свішчуць
сантэхніка і батарэі.
Пошты больш не прыносяць.
Так праходзіць зямная слава.
Кухні смярдзяць капустай
і бульбай на польскім алеі.
Ніякіх няма пераменаў.
Нехта памёр ці прапаў — і ладна.



# ЗАЛАТАЯ СВІННЯ

**Ноч праходзіць у радыётэлекашмарах.
Нават кашаль мой цыгарэту не тушыць.
Спяць калегі. На нарах. У мінскіх казармах.
І бяссілле правінцыі мяне душыць.**

**Іх бралі з вуліц за тое, што яны людзі.
А не чорныя вошы за пазухай міліцэйскага бога.
Ноч на Крэсах. Паціху крадуць і гандлююць.
Хаму з плошчы Свінні Залатой не патрэбна свабода.**

**Спяць усе, каму заўтра зноў на работу.
Над цэнтральнай плошчай усходзіць Свіння Залатая —
як багіня паганская! Як жывем за калючым дротам,
за працоўным народам, за светам, за сонным Краем...**



## ПЕРШАЯ КРОЎ

**А вось і першая кроў на снезе.
Людзей збіваюць. Цягнуць за краты.
Злосць простага люду з улады лезе.
Свайго дачакаліся дэмакраты.**

**Смерць уздыхнула — і ёй не спіцца.
Ахвяры і ка́ты скутыя страхам.
Просты люд адзін не баіцца.
Дрыхне ў пяціпавярховых бараках.**

**Ходзіць на службу. Крадзе на чарку.
Любіў прэзідэнта — цяпер не любіць.
Чакае канца — каб пачаць спачатку.
Люд бессмяротны. Прапашчыя людзі.**



## MODUS ALBARUTHENDI

**— На Беларусі і дурань шчаслівы,
калі працавіты і з моцным цярплівы, —
кажа вясковы закон.**

**— Прыўкрасная будучыня чакае!
Вось толькі чарговы рэжым зламаем, —
вучыць Пазьняк Зянон.**

**— Спяваў бы аб шчасці, спяваў аб свабодзе,
каб долю бачыў у родным народзе! —
Янка Купала гукнуў.**

**— Не выжыве доўга дзяржава тая,
дзе большасць дурная перамагае, —
Леў Сапега ўздыхнуў.**



# ПАСЛЯ ДОЖДЖЫКА Ў ЧАЦВЕР

**Ні прымусу даўно, ні здзеку.
Як банальная рыфма — свабода.
Ходзіш, просіш тую капейку…
Ідыёт за шчасце народа.**

**Лупяць вочы сяброўскія морды.
Бізнесмэны на сёмым небе.
Маеш быць ты святы і мёртвы.
Ці жывы — як мёртвы. Так лепей.**

**Ходзіш ранішняй прагулянкай.
Кожны кажа, як яму цяжка...
Раз за дзесяць гадоў, як сабаку,
Жэнька Лотвін падасць на пляшку.**

**Гонар твой даўно выйшаў з моды.
А ў вакно ступіць — не збярэшся...
Дурань ты. Беларускамоўны.
На тых Крэсах. Тым узбярэжжы.**

**Так і будзеш здыхаць, паскуда.
За глыток на паўгода волі.
Падмятаць не возьмуць нікуды.
Забіваць не будуць ніколі.**



# БАЛАДА
# ПРА РУДОЛЬФА ПАСТУХОВА

**Слонім. Восень. Ранняя, як у сне.
Пуста. Свет — як на нейкім дне.
Сам не веру. Так не бывае...
Над маёй галавой у светлай труне
Пастухоў Рудольф праплывае...**

**Над зямлёй без вартаў і без ахоў
сам плыве паэт Рудольф Пастухоў.
Ён цяпер на свабодзе —
і не просіць долі ў народзе.
Ён не ў коле варожым —
ён цяпер толькі Божы,
перажыў суму і турму,
і жывыя зайздросцяць яму...**

**Чалавек жыве выпадкова —
што ў тым Слоніме, што ў Маклакова.
Сумна будзе на свеце
жыць мне без Пастухова.
Зашуміць па ім вецер,
дожджык пралье слязу,
прарасце па ім Слова,
стане ясна і нова —
пастаю над яго магілай,
на Неба яго пагляджу...**

**Слова нікога не адратавала,
зло заўсёды мацней дабра,
пакаленне нічога не адваявала,
у бяздонне зацягвае нас дзіра,**

**не патрапіць у рай, хто пражыў паэтам,**
**не цярпеў ні вартаў, ані ахоў —**
**і таму сам сабой над бяздонным светам**
**праплывае паэт Рудольф Пастухоў,**
**праплывае вышэй і раю, і пекла,**
**над усімі намі лёгка ляціць.**

**І на доле ў Слоніме робіцца светла.**
**Толькі Шчара плача — бо ёй баліць.**



# БАЛАДА ПАМЯЦІ БЕЛАГА КОЦІКА БАСІКА

**Цяжка на гэтым свеце.
Як было — так ізноў.
Толькі дайшоў я да смерці —
Басік мяне знайшоў.**

**Басік — белы і ла́скавы.
Быў ён — Басок, Каласок,
Брацік Чатырохлапкавы,
Сыночак і Калабок.**

**Жыў са мной у бяссонніцы.
Чакаў — як мяне не было.
Меў ён сваё Басовішча.
Глядзеў у сваё вакно.**

**Божа, якія мы дурні
ў гэты кампьютарны век!
Коцік жыве разумны
менш, чым святы чалавек.**

**Што мы сабой занятыя?!
Не бачым нічога кругом...
Як коцік чатырохлапкавы
адзін збярог цэлы дом.**

**Адкуль у нас столькі злога?!
Чаму мы пусцей — чым дым?!..
Няма больш Басіка дома.
Ляжыць пад акном сваім.**

**Ноччу грукае ў дзверы,
да сэрца лезе праз сон...
А можа, ён яшчэ вернецца?
А можа, ўваскрэсне ён?**

# БАЛАДА ПРА ЎЛАДЗІМІРА ЗАХАРАВА

**Калісьці нашыя пралетарыі
ў працэсе класавай барацьбы
забралі сабе гітару з Гішпаніі
і зрабілі з яе інструмент шпаны.**

**І прапала ў гітары гукаў свабода —
шэсць акордаў блатных выбівалі з яе.
Але ўзяў яе ў рукі Захараў Валодзя —
і на кожнай мове гітара пяе.**

**І ў яго не гітара — а сэрца паэзія.
Ён яе навучыў слухаць нёманскі гул.
Ён яе абярог ад бяздушша і плесені
і свабоднай яе на радзіму вярнуў.**

**У Гішпаніі слухалі тлумы народа
нашых вулічак сум, светлы дождж у вакне...
Калі хочаце мець на Айчыне свабоду,
не прасіце яе, а рабіце яе.**



# БАЛАДА ПРА ВІКТАРА ШАЛКЕВІЧА

Даўно да мора паплыла адгэтуль рэчка,
а сум адвечны спаць да ранку не дае —
жыдоўскай скрыпачкі прапашчае мястэчка
Шалкевіч Віктар сіл сваіх вышэй пяе.

Мястэчка мела на сабе уладаў дзесяць.
Паноў штук сорак. І саветаў сорак пяць.
І немец мог яго спаліць, а мог павесіць —
а потым гразь гуманітарную прыслаць...

Цяпер няма ні тых людзей, ні тых імёнаў —
і шваль наезная не чуе іх праклён.
Цяпер з дзяўчынай не прытулішся пад клёнам —
даўно пад корань спілавалі стары клён.

Шалкевіч Віктар плакаць мог бы — а жартуе.
Жыць нецікава з беларусамі ў слязах.
А ён артыст — ён робіць выгляд, што не чуе
адчай у сэрцы і ў душы правал і жах!



# БАЛАДА ПРА ІВАНА СЯРГЕЙЧЫКА

**Час аказаўся тупы і востры.
Вёска, вайна і натоўп жанчын.
Старшы прапаршчык — старшы ў войску.
Бо маёр з маёрам грызуцца за чын.**

**У падняволлі бойні афганскай
не выйшаў ніхто з летаргічнага сну.
Іншым, як цвік у труну — адстаўка.
Але Сяргейчык не лезе ў труну.**

**Кожны ў райцэнтры — вялікі і геній.
І графаманіць кожны чыгрын.
А піша добра Іван Сяргейчык.
Бо піша — як жыў. Бо не спаў, а жыў.**

**Спіхнуў старое — як бабу з воза.
Лёгка паехаў сабе далей.
З каго ты смяешся, сталічная вёска?!
Глядзі, з таго смеху не акалей...**

**Сяргейчык дом сабе ставіць над Шчарай.
Новы зноў сканчае раман.
А дзе там шчасце і дзе няшчасце —
не мы жылі, і судзіць не нам.**



# БАЛАДА ПРА ЎЛАДЗІМІРА КІСЛАГА

**Стаім на месцы. Але ў калейцы.**
**Адны ў Варшаву, другія ў Маскву.**
**Гэта паэт чым дурнейшы, тым лепшы.**
**Рэстаўратар мае мецъ галаву.**

**Час праядае людзей і сродкі.**
**Нішчыць кожны — чужы і свой.**
**І нехта мусіць рабіць падробкі.**
**Каб прыгажосць засталася жывой.**

**Мільгаюць улады, мітынгі, пляцы.**
**Пра Беларусь там і тут плятуць.**
**Ні святар, ні палітык грашыма не плацяць.**
**А толькі доўг маральны даюць.**

**Нам і так засталося нядоўга...**
**Але за што апошніх майстроў**
**душыць Айчына маральным доўгам**
**і рукамі дурных змагароў?!**

**Стаім і душымся ў той калейцы.**
**Здыхаем ціха. Гарым агнём.**
**У Еўропе жабруем — як на жалейцы...**
**Рэстаўратар робіць. Ноччу і днём.**



# БАЛАДА ПРА ВІКТАРА ШАЛКЕВІЧА, САКРАТА ЯНОВІЧА І ЗАМЕЖНАЕ МЯСТЭЧКА КРЫНКІ

**Божа, навошта мы душы ўзаралі?!
Адны лапухі тут зямелька родзіць...
«Калі ты ўжо нас павядзеш у Ізраіль?!».
Дзе там! Шалкевіч прапаў. На гастролях.**

**Віктар, ты не прыдурвайся дурнем —
за маю́ мала лепшая твая доля.
Цябе гэтаксама аднойчы здратуюць.
Ад Скідля да Поразава недалёка.**

**Мы з тых Крэсаў да смерці не выйдзем,
пакуль Беларусь знойдзе згублены розум.
Гэта Сакрат Яновіч — у Крынках.
На вадзе мінеральнай. У цэнтры Еўропы.**

**Ты — як хочаш. А мне няма месца.
Бо тут да мяне нават грошы не прыйдуць.
Мне не трэба манны нябеснай —
мне б хоць такую, якая ў Крынках.**



# КОСАВА

**Ноччу недзе ў далёкіх Крынках,
што згубіліся на пагорках
новаўпэўненай пані Еўропы,
валацуга з далёкага Гродна
з новаўпэўненай Беларусі
цягне піва з гнуткіх бляшанак
аж пакуль не замгліцца ранак.**

**Свет хаваецца ў завірусе
парахункаў і бамбардзіровак.
Тэлевізар скончыў работу —
папраўляць непапраўныя душы.
Пыл і чад на мяжы непарушнай —
ад суботы і да суботы.**

**Больш няма ніякага Слова,
ані добрага, ані злога.**

**Той, хто мае Лепшыя Бомбы —
той бароніць... Прагрэс і Праўду.
А ў каго састарэлая зброя —
той і з крыўдай не мае рады.
Бог — на кожным баку, дзе зброя.
Не хачу варушыць старое...
Свет падзелены — на тых сербаў
і на тых, дзе канчаюцца Крынкі.
Беларусы таму знікаюць,
каб не быць на лініі фронта.
Не хачу пыл надзеі сеяць
і крычаць у нячутным крыку,
што айчыны не паміраюць
у Эпоху Бамбардзіровак...**

**Час прайшоў. Спазняюцца грошы.
Чад наркотыкаў. Пустка нірваны.
Пыл на кніжках Мілаша з Мрожкам.
І замест еўрапейскай Польшчы —
з капіталам абмежаваным —
Сам Касцёл наязджае на Крэсы,
бо не мае... ў Еўропе месца.
Не пусціць яго — не па-людзку.
А пусціць — прыйдзе той, хто… лішні
ў Дэмакратыі і Свабоды.
Але... што мы тут самі маем?!
Мокне вёска на шэрым лузе.
Рукі цягнуць грушы і вішні.
Вечны сыплецца дождж над Краем
ад суботы і да суботы…
І няма ніякага Слова —
ані добрага, ані злога.**

**Што цяпер памінаць старое...
Маем лепшае вырашэнне —
беларусы знікаюць з фронта,
сербы пруць насуперак смерці,
а рэліктавы лес албанцаў
рэжа кожны мяснік на дровы...**

**Не хачу варушыць старое,
не хачу варушыць старое
ноччу недзе ў далёкіх Крынках,
што згубіліся на пагорках…**



## ПЕРАПІС

**Вось і перапіс звесткі пакінуў.
Самы час цяпер разважаць.
Першакласнікаў менш на трацiну.
Перасталі жанчыны раджаць.**

**Стала больш беларусаў. На свяце.
Вось што значыць суверэнітэт!
І гавораць на мове — у хаце.
Бо падпольны менталітэт...**

**А жыды — у Ізраілі. Дома.
Тут прайшлася ці моль, ці вош...
І адны Гендэльман з Гардонам
дажываюць на ўласны кошт.**

**І палякаў няма, Божа леташні!
Не кулак, а суцэльны апёк —
толькі Гавін, падпёрты Малевічам.
А Буйніцкі да Польшчы ўцёк...**

**Што ж, усе мы жывем інтарэсамі!
Дзе народжаны — так і жыві.
Неразменная ціша над Крэсамі.
Як чакаем чарговай крыві...**



## Я ХАЧУ Ў САВЕЦКІ САЮЗ

**Не шкадую і не наракаю.
Толькі мрою — бо я беларус.
Але ж толк з незалежнага Краю...
Я хачу ў Савецкі Саюз.**

**Жыў сабе адным днём — колькі лезла.
Не начальству — народу служыў.
Хоць і бедна, ды лёгка і весела.
Без клапот і праблемаў жыў.**

**Там было — як на іншым свеце.
Кожны хам быў, як пан і звер!
Нават мова сядзела ў бюджэце.
Не ў змаганні дурным — як цяпер...**

**У свабоды намнога горшыя,
хоць другія гвалт і прымус.
Ёсць усё. Няма толькі грошай.
Я хачу ў Савецкі Саюз.**

**Калі пойдзе далей такое,
не пазнаем уласных дзяцей...
— Сё! Урэмя прайшло залатоя! —
як казаў Мікалай Дземянцей.**



## ХАМЕЛЕЁНЫ

**Божа, не будзь Ты такі магутны!
Глянь, як згультаіўся Твой народ...
Гэтыя ўсе яцьвягі і гуды,
і беларусы — з вачыма «ўпярод».**

**Новы шлях адкрылі халопы,
бо халява яшчэ не ўцякла —
хочуць так пайсці да Еўропы,
каб Еўропа з грашыма прыйшла.**

**Новы час чынавенцтва чакае,
каб вярнуліся казкі і сны —
служба ціхая, родная зграя
і бяздонная бочка Масквы.**

**Новы фронт завялі адраджэнцы,
санпрапускнік альбоператрус —
хто не плюе на свайго ж прэзідэнта,
той цяпер і не беларус.**

**Так і слінявяць чаканне з праклёнам,
так і глядзяць учарашняга дня
дзесяць мільёнаў хамелеёнаў
на ахамелай службе ў рубля.**



# ТУРМА

**Снег ідзе. Наляцела на Гродна зіма.
Ходнік слізкі і вузкі. Мур высокі. Турма.
Сягоння з гэтага боку гуляю міма яе.
А што адбудзецца заўтра — маўчаць анёлы мае.**

**Наша турма са славай. Ад царскай і польскай пары́.
Тут сядзелі выдатныя людзі — ўсе з падручнікаў змагары.
Сягоння з гэтага боку гуляю міма яе.
А што адбудзецца заўтра — маўчаць анёлы мае.**

**А народ бяжыць і штурхаецца. Няма часу яму гуляць.
Дэмакраты няхай выдурняюцца. Трэба красці і зарабляць.
У правінцыі гора вясёлае. Мы не вязьні — вязьні не мы.
Галубы ляцяць над касцёлам. Слізкі ходнік каля турмы.**



# РЭКВІЕМ

**У імя Сястры Брата і Святога Духа**

**дзень бясконцы зноў завіруха
сэрца рэжа у глотцы суха
не прыходзіць ніхто за табой
не прыходзіць ніхто за табой
флейта нудная ці габой
флейта нудная ці габой
не знайсці нідзе чалавека
у суседзяў з другога паверха
у музычнай школе дачка
доўга пуста прапала вера
не пакінула пятачка
не пакінула пятачка**

**два разы мяне забівалі
кожны дзень мяне забывалі
а жыву жыву і жыву
нешта маю маю і маю
што зрабіла ўсім вам Тамара
чым яна зарабіла труну
чым яна зарабіла труну
што вы маеце Скідаль і Гродна
было цесна стала свабодна
што забыў я тут Божа мой
не прыходзіць ніхто за мной
не прыходзіць ніхто за мной**

**дзень бясконцы пустая памяць
не патрэбны нікому камень
у мястэчку чужая школа
у суседзяў вечнае сола**

**у душы адзічэлай гола**
**сэрца рэжа у глотцы суха**
**свет шалёны зноў завіруха**
**што зрабіла яна каму**
**маці з бацькам не дагадзіла**
**за гадзінай цячэ гадзіна**
**што цяпер людзкія рублі**
**што пажыць ёй вы не далі**
**не бывае дна залатога**
**не баліць ёй цяпер нічога**
**боль пакінула на зямлі**

**што ён ходзіць недзе далёка**
**замяла завея дарогу**
**не прыходзіць боль да мяне**
**не прыходзіць боль да мяне**
**не бярэ мяне да Тамары**
**што ж адна яна там без пáры**
**не прыходзіць ніхто за мной**
**не прыходзіць ніхто за мной**
**ні бяссонніцай ні зімой**

**о так мала так мала так мала так мала**
**пажыла пажыла пажыла пажыла**
**Тамара Тамара Тамара Тамара**
**сястра сястра сястра сястра**



# БЯССОННІЦА

*Васілю Быкаву*

**Ноччу ў вакно грукочуць галінкі.**
**Дожджык і вецер. І сна не маю...**
**Быў тут прыехаў адзін вялікі —**
**як на інспекцыю роднага Краю.**

**Глянуў — як быццам мы ўчора з лесу.**
**Таго не ведаем і другога.**
**Сказаў, што я ўсім у вочы лезу —**
**як за кашулю да Пана Бога.**

**А што мне лазіць, дзе не прасілі?!**
**І так бессмяротны — бо з грэшнай душою...**
**Сястра мая Тома спіць у магіле,**
**а кніга мая — пад яе галавою.**

**А што я сам гарэлку цягаю**
**і са злосці трасе ад мяне начальства...**
**Я не самотны. Я кнігу маю.**
**І кніга — там. Перад вечным часам.**



# ЛАСТАЎКА

Ластаўка, птушка малая, чорная з белым,
адна ты ў мяне такая на свеце цэлым.
Ты з-пад стрэхі маленства ляціш у памяць маю.
Надакучылі дзеўкі доўгія. Ластаўку я люблю.

Чорненькая мая, валасы мае пасівелі,
апошнія дзесяць гадоў ты са мной не была.
Беленькая мая, тут зімой нават снег чарнее,
апошнія дзесяць гадоў я не чуў тваяго цяпла.

Ластаўка, птушка малая, берагавушка і стрэшніца,
абудзі сваім лётам заспаны абшар.
Ты высока ляціш над дратамі памежнымі,
твае крыльцы малыя не бачыць радар.

Калідоры бясконцыя. Дзверы бразгаюць.
За зімой зіма і за хаем хай.
Не забудзь дарогу даўнюю, ластаўка.
Не забудзь мяне, вясной прылятай...



## ЯЛІНКА

**Свята дваццаць гадоў не было —**
**адна гарэлка з горкім вяселлем.**
**Запаліла ялінка ў доме святло**
**на Свята Божага Нараджэння.**

**Дваццаць гадоў дзе-небудзь вайна.**
**Самога два разы забівалі.**
**Свечка гарыць на краю стала.**
**Не ўспамінаю, а забываю.**

**Двуногіх звяроў і двудушных сяброў.**
**Тых, хто біў, і тых, хто не бачыў.**
**Цяпло, як віно, запаўняе кроў.**
**А цемра замерзла ў холад сабачы.**

**Не трэба больш зусім гаварыць —**
**пра беднага хама і кепскага пана.**
**Цемра гасне. Свечка гарыць.**
**І ўсё мінулае ў цемры прапала.**



## ПОМНІК

Гродна — месца маленства.
Агеньчыкі ў вокнах зімы.
На свеце лепшае месца
там, дзе ў маленстве мы.

Кожны свой бераг мае.
Светлы і чорны цень.
Гродна — магіла маці.
Першы дарослы дзень.

Села вёска і ловіць —
грошы, крэслы, чыны.
Лішні там Багдановіч,
дзе ўладкаваліся мы.

А тое маленства святое
навек замяла зіма.
Гродна — гняздо пустое.
Помніка ў Гродна няма.



## «НА МАЛОЙ САДОВАЙ...»

**Гадоў чатырыста гінем —
зноў вось няма свабоды.
Маем толькі Максіма
ў куце на Малой Садовай.**

**Навошта сэрца і рукі,
калі душа без надзеі?!
Данута, мы — беларусы —
наша месца ў музеі...**

**Паволі ў рай да спакою
сцежкай ідзем сваёю,
сцежкай не хамскай, не панскай,
Максімавай, магіканскай...**



# ЛЕТАРГІЯ

**Пустка. Хмары. Перад навалай.**
**Розум спіць — як па цяжкай працы.**
**Сон ізноў нараджае пачвараў.**
**Як крыклівае веча на пляцы.**

**Дзве вайны, ГУЛАГ і Асвенцым.**
**Трыумф вёскі ў часах Пол Пота.**
**Свет даўно нікому не верыць.**
**Апроч новай чарговай глупоты.**

**Так патопам патоп змывае.**
**Там, дзе Троя і Атлантыда.**
**Затаіўся час, спачывае.**
**Камянём у прашчы Давыда.**



# АКІЯН

Хваля ўстане за хваляй, а мора ўстане за морам.
І гара́ за гарой. І народ адзін за адным.
Лішні дзень нідзе не замоліш ніякай замовай.
Прарастаем з хаосу — вяртаемся ў попел і дым.

Край дастаўся малы. І слабы. І амаль ніякі.
І цяпер нічый. На Расію ці Польшчу едзь
або тут чакай — прыйдуць рускія ці палякі.
Ды ні тыя, ні тыя… не варушацца ні ледзь-ледзь.

Нам даўно адным стала Краю такога замнога.
Жыць не здолелі тут святы Юры і святы Ян.
Не прасіце ўсяго Сусвету ў Госпада Бога...
І па кроплі вады адзінай можна спазнаць Акіян.



## АПОСТАЛ

**Пакінь ты мяне, Нячыстая Сіла,**
**хадзіў я біцца — другім пара́.**
**Чытаю Евангелле ад Максіма.**
**Проста кніжніка. Не змагара.**

**Ўсё паўтараецца. Толькі што позна.**
**У Ісуса Хрыста даўнюткі-даўно**
**розных прафесій былі апосталы,**
**а вось змагароў сярод іх не было.**

**Ці ўсім дзеля люду лезці ў магілу?**
**А хто ж тады будзе «Вянок» збіраць?!**
**Пакінь ты нас, Нячыстая Сіла,**
**Народ мае сам за сябе пастаяць.**



## З АРТУРА МЕНДЗЫЖЭЦКАГА

Не чакай ты яго болей, люд знаёмы.
Больш няма яго ні ў целе, а ні дома.

З крэсла за сталом яго здзьмухнула —
нібы сіні дым па стрэле з дула.

Стаў ён лёгкай хмаркай ў небе шэрым —
і з сябе пайшоў, і з той кватэры.

Сам ён выйшаў, сам сябе пакінуў —
рэхам успамінаў пра ўспаміны.



# З БАРЫСА СЛУЦКАГА

**Там няма ні аркестры, ні стужкі,
ні легенды, ні славы штучнай
ці фальшывай, ці хоць бы якой.
Толькі яма — і ў гэтай яме
з чорнымі і крутымі краямі
спачывае на дне спакой.**

**Надрывацца і марнавацца,
па нанятых кутах туляцца,
каб калісь мець палац задарма —
то дарэмна. Бо там, на фінішы,
як туды не рванешся, не кінешся,
апроч ямы нічога няма.**

**Ды не варта і прагінацца,
зноў маліць, званіць, дабівацца
і цярпець тыя здзек і боль.
Нават там, у цішы суцішанай,
там, на мэце, на лініі фінішнай
толькі яма — нічога больш.**



## З ЮСІФА БРОДЗКАГА

**Тут нарадзіцца ў час няшпаркі,
дзе ў дворыках вісяць пярыны,
глядзець з-пад стрэхі, бачыць паркі,
крыжы двухтварай Кацярыны,
цурацца маці, чырвань боўтаць,
калі ў ларнэткі глянуць пані,
завулкам гэтта, вузкім, жоўтым,
піхаць двухколку з лахманамі,
накрыцца з галавою ў мроях
пра полек з дужымі грашыма,
пасьля на фронт пайсці героем
і згніць на Вісле «за Айчыну,
Цара і Веру!» альбо пэйсы
сабе паабстрыгаўшы рана
у Новы Свет адплыць — і рэйсам
рыгаць у хвалі Акіяна...**



# З ЧЭСЛАВА МІЛАША

**Мая верная мова,
служыў табе я.
Кожную ноч ставіў перад табой місачкі з цветам —
каб мела ты і бярозку,
і польнага коніка,
і снегіра,
захаваных у маёй памяці.**

**Шмат гадоў так было.
І была ты Айчынай маёй — бо другой не стала.
А думаў я, будзеш і пасярэдніцай
паміж мной і добрымі людзьмі,
няхай было б іх хоць дваццаць,
хоць дзесяць,
няхай ніхто б з іх яшчэ не нарадзіўся.**

**А цяпер прызнаюся да сумневу ў веры.
Бываюць хвіліны, калі здаецца, што жыццё змарнавана.
Бо ты ёсць мовай падлюгаў,
мовай неразумных і ненавідзячых сябе
больш усіх іншых народаў,
мовай даносчыкаў,
мовай ашалелых,
мовай хворых на сваю цноту.**

**Толькі хто я без цябе...
Нейкі шкаляр недзе ў далёкім краі —
адно добра,
хоць без страху і паніжэння.
Хто я без цябе...
Філосаф. Ды сягоння кожны філосаф.**

**Не, я разумею:**
**гэта мае паўплываць на маё выхаванне,**
**персанальная слава адсечаная,**
**а грэшніку ад маралі**
**чырвоны дыван рассцілае Вялікая Пахвала,**
**а тым часам чароўны ліхтар**
**кідае на палатно**
**вобразы чалавечай і Божай пакуты.**

**Мая верная мова,**
**так выходзіць,**
**што я мушу цябе ратаваць**
**і я буду ставіць перад табой місачкі з цветам —**
**якім здолею, самым ясным і чыстым —**
**бо нават у такім**
**бязладдзі і бардаку**
**маюць быць хоць нейкі лад альбо прыгажосць.**



# POSTKRYNKUM

**Сакрат Яновіч**
**піша пра доўгую смерць Крынак.**
**Але сваіх знаёмых з Еўропы**
**цягне да Крынак,**
**дзе жыве доўгая смерць.**
**Што ж, гэта гуманізм і прагрэс...**
**Бо некалі Дантэ пісаў пра пекла —**
**і сваіх знаёмых з Еўропы**
**цягнуў адразу да пекла.**

**Жыву — як за мяжой. Бо ў Гродна.**
**Там пасьля вайны пусцілі пад нож бульдозера**
**жыдоўскія могілкі —**
**і зрабілі стадыён «Чырвоны Сцяг».**
**Бо вёска так моцна перла да места,**
**што месца ёй бракавала.**
**Так мацнеў «саюз непарушны»...**

**А калі ён парушыўся,**
**то ў матчына-бацькавым Скідалі**
**пусцілі пад нож бульдозера стадыён —**
**і зрабілі могілкі.**
**Бо тым з вяскаўні, хто даехаў толькі да Скідаля,**
**месца зноў бракавала.**

**Жыву ў такім Краі,**
**дзе жывыя адабралі мёртвым спакой,**
**а мёртвыя — як у рэваншы! —**
**адабралі жывым розум.**
**І цяпер цесна ўсім —**
**мёртвым сярод жывых,**
**а жывым сярод мёртвых.**
**Таму еду да Крынак.**

**Там спакой ляжыць на пагорках,**
**а Сакрат жыве дома —**
**«Сакрат» па-беларуску гэта «чалавек разумны» —**
**і смерць у Крынках такая доўгая,**
**што за пагоркамі не відаць,**
**дзе яе канец**
**і яе пачатак...**



# МАЛІТВА

**няхай вера простаю будзе**

**ні збаўленне ні карма**
**ні алтар кампьютара**
**ні экран касьцёла**
**толькі часу кавалак**
**чалавечага лёсу**
**тое месца на свеце**
**і дарога за светам**

**няхай вера простаю будзе**

**бо хто Бога шукае — трапляе да пробашча**
**секту фірму ці партыю**
**у кампанію школьных сяброў**
**у прэстыжны клуб бізнесмэнаў**
**забягалаўку пралетарыяў**
**згаладалы Саюз пісьменнікаў**
**свет багемы**
**калгасную веску**
**у ідэйную эміграцыю**
**у грызню за даляры**

**няхай вера простаю будзе**

**хлусіць кожны з першага слова —**
**я нарадзіўся! —**
**бо — ні сам ні пры чым**
**ні бацькі не хацелі**
**проста так атрымалася**
**потым час без канца і без сэнсу**
**падарожжа на месцы**
**толькі свет і дарога за светам**

**няхай вера простаю будзе**

## КАМЕНЬ

**Ружовы камень зрабіўся белым.
За адну спёку. Адну завею.
Бо толькі час застаецца вечным.
А ўсё расце, старэе, сівее.**

**Здавалася б — што яму з гэтым Краем...
З яго нялюдзтвам. І неспакоем.
Але — і камень даўно не камень.
Сівее камень. Жыццё такое.**

**Камень збялелы чакае смерці.
А чалавек — адно камянее.
Нешта нядобра на гэтым свеце.
Бо ўсё расце, старэе, сівее.**

**Мяне — парэжуць. Кананізуюць.
У хрэстаматыях — дурань на здымку.
Камень парэжуць — і адшліфуюць.
І ляжам, парэзаныя, у абдымку.**

**Пакуль адно тэлебачанне бачу.
Сяджу, пацягваю, назіраю...
Камень не плача — і я не плачу.
Ні над сабою, а ні над Краем.**



# ЗМЕСТ

**Чобат Алесь. Тутэйшая Сага.**

Смаленск: Бібліятэка часопіса «Годы», Смаленск – Гродна, 2000. Выпуск семнаццаты. 134 с.

Рэдактар – **Мікалай Ількевіч**

Тэхнічная падрыхтоўка выдання – **Улад Свабодзін**

Здадзена ў набор 18.11.2000. Падпісана ў друк 02.12.2000.
Фармат 84x108 1/32. Друк. арк. 8,375. Наклад 200 паасобнікаў.